ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# НІЗАВЫ ПАРТРАБОТНІК

1 МАЯ 1934 г.

№ 2-3

ЖУРНАЛ ГОМЕЛЬСКАГА ГК КПБ(б)

## НЯХАЙ ЖЫВЕ 1-МАЯ—БАЯВЫ АГЛЯД РЭВОЛЮЦЫЙНЫХ СІЛ МІЖНАРОДНАГА ПРОЛЕТАРЫЯТА!



## СВЯТА ТРУДА І ПЕРАМОГ

Кожны год у дзень Першага мая рабочы клас і ўсе працоўныя нашай краіны выходзяць на вуліцы, дэманструючы сваю моц і сілу, сваю міжнародную пролетарскую салідарнасць, падводзяць ітогі сваіх перамог, намячаюць шляхі далейшай барацьбы.

Першамайская дэманстрацыя ўсяляе бадзёрасць, сілу і ўпэўненасць у перамозе, кліча к барацьбе, мабілізуе на паспяховае наступленне ўперад, к новым перамогам на франтах соцыялістычнага будаўніцтва.

Наша маёўка была і астанецца баявым днём, сімвалам растучага рэволюцыйнага руху, выхоўваючага і загартоўваючага працоўных у барацьбе за новае, культурнае, соцыялістычнае жыццё.

Сорак пятую маёўку мы сустракаем у абстаноўцы разгорнутай работы па ажыццяўленню вялікіх гістарычных рашэнняў XVII з'езда партыі. Барацьба за высокія паказальнікі работы прамысловасці, за добраякасна праведзеную сяўбу, за асваенне тэхнікі вытворчасці, за нармальную і бесперапынную работу транспарта, за культурнасць у рабоце і жыцці, за перабудову форм і метадаў работы—вось за што змагаецца, чым жыве краіна працоўных і перадавы атрад рабочага класа—комуністычная партыя пад кіраўніцтвам яе любімага правадыра т. Сталіна.

Працоўныя Гомеля разам з усёй краінай, з усім рабочым класам праводзяць у жыццё рашэнні з'езда, актыўна змагаючыся на розных участках соцыялістычнага будаўніцтва.

Першае мая рабочыя Гомеля сустракаюць радам вытворчых перамог. Завод „Пролетарый“ заканчвае асваенне новага складанага металаапрацоўчага станка „Калава“, даказваючы гэтым свой велізарны вытворчы рост і вялікія магчымасці. Гомсельмаш асвоіў малацілку Б-Р-23, выпускаючы іх ужо серыйна. Падыходзіць да канца асваення складанага механізма ільно-камбайна і рада іншых машын. Шклозавод пусціў у ход 2-ю чаргу. Рыхтуе к пуску 4 турбіну, магутнасцю ў 3000 кв., электрастанцыя. Паспяхова кожны месяц выконвае сваю праграму шчацінная фабрыка.

Дэпо выпускае з рамонту звыш плана 3 паравозы. Пачынаюць вылазіць з глыбокага прарыва такія гіганты Гомельшчыны, як папяровая фабрыка ў Добрушы, камбінат імя Гікало.

Красавік паказаў, што фабрыкі „Праца“, „Комінтэрн“, „Везувій“, падымаюцца ўверх, выконваючы сваю вытворчую праграму. Цвёрда і няўхільна трымае сцяг ЦК КП(б)Б чырвонасцяжны завод імя Ланцуцкага.

Але пры ўсіх гэтых дадатных момантах прамысловасць Гомеля ўсё яшчэ адстае, яна ў даўгу перад краінай. I квартал скончан нездавальняюча. Такія прадпрыемствы, як „Казімі“, Чырвоны хімік“, „Спартак“ і інш. цягнуць агульнагарадскія паказальнікі ўніз. Гэта патрэбна асабліва ўлічыць і зрабіць адгэтуль неабходныя вывады. У дзень Першага мая мы павінны яшчэ больш мабілізаваць рабочых на ліквідацыю адставання, на паляпшэнне якасці выпускаемай прадукцыі, каб вывесці прамысловасць Гомельшчыны ў перадавыя рады Савецкай Беларусі.

Шырока разгарнулася ў раёне веснавая сяўба. К майскім дням большасць калгасаў і сельсаветаў скончылі сяўбу ранніх зернавых, ідзе пасадка бульбы і падрыхтоўка к сяўбе позніх гародніх і тэхнічных культур.

Перадавікамі ў сяўбе ідуць калгасы Прудкоўскага с.-с — „Чырвоны працаўнік“, „Шлях да соцыялізма“, Пакалюбіцкага сельсовета—імя Леніна, Лапаціна, калгас імя Будзённага, Урыцкага сельсовета, калгасы Карналінскага сельсовета, Жгуньскага сельсовета, калгас „Чырвоны маяк“ і рад інш. Плятуцца ў хвасце калгасы Цярэшкавіцкага, Зябраўскага, Жгуна-Будскага, Жаробенскага с.-с, калгас „Батрак“ і г. д., якія не ўзначалілі большэвіцкай барацьбы за правядзенне сяўбы, не здолелі мабілізаваць вакол гэтага буйнейшага гаспадарча-палітычнага мерапрыемства масы калгаснікаў. Задача гэтых калгасаў—неадкладна падцягнуцца, стаць у рады перадавых, не цягнуць раён уніз.

Асобную ўвагу ЦК і гарадскі камітэт партыі звярнулі на падгатоўку к сяўбе аднаасобнікаў. Ёсць ужо многа сельсоветаў, якія з гонарам праводзяць сяўбу ў аднаасобных гаспадарках (Мільча, Жаробнае, Прыбар). Але-ж у цэлым аднаасобны сектар яшчэ здорава адстае. Падцягнуць аднаасобнікаў на ўзровень калгасаў, скончыць добраякасна сяўбу — лепшы падарунак першамайскаму святу,—святу працы і перамог.

Вялікая работа праведзена партыйнай арганізацыяй пры падтрымцы ўсёй пролетарскай грамадскасці горада ў барацьбе за чысты варштат, цэх, двор, вуліцу. Шляхам суботнікаў, у якіх прымалі ўдзел многа тысяч працоўных, часці Чырвонай арміі, студэнцтва, у значнай ступені ачысцілі горад ад бруду, смецця. Дамы на цэнтральных вуліцах і часткова на ўскраінах—пабелены, патынкаваны афарбаваны, рамантуюцца тратуары, кватэры, прыводзяцца ў парадак паркі, алеі. Насаджаны дрэвы, азеленены вуліцы. Праароблена аграмадная работа па ачыстцы і прывядзенні горада ў парадак, але гэта яшчэ толькі першыя крокі, за імі павінна паследваць сістэматычная, штодзённая барацьба за чысты горад, за чысты дом, за чысты цэх, двор, прадпрыемства.

Барацьбу за культуру, за чыстату—у парадак дня—так вызначыла задачы гарадскіх арганізацый „Правда“ ў перадавым прысвечаным падрыхтоўцы к 1 мая. Указанні „Правды“—дырэктыва для нашай штодзённай работы. Не астановімся на дасягнутым, дружнымі патугамі ўсёй пролетарскай грамадскасці выведзем Гомель у перадавы атрад спаборнічаючых гарадоў Беларусі.

З вялікімі зрухамі мы сустракаем Першае мая і ў галіне перабудовы партыйнай работы на аснове рашэнняў XVII з‘езда партыі. Лепш расстаўлены партыйныя сілы на розных участках нашай работы. Большасць цэхавых і групавых партыйных арганізатараў разам з сваімі партыйнымі камітэтамі сталі сапраўднымі арганізатарамі масавай работы і перамог на вытворчасці—(канферэнцыя ліцейшчыкаў, канферэнцыя па асваенню машын, барацьба за якасць і т. д). Павысілася ўвага к грамадска-партыйным пытанням, ажывіліся партыйныя сходы, прыкметна знізіліся парушэнні партыйнай дысцыпліны. Сотні комуністаў і комсамольцаў поўнасцю аўладалі зместам даклада тав. Сталіна на 17 з‘ездзе партыі, здаўшы палітэкзамен на „вельмі добра“.

Значна ўзрасло значэнне тэхнічнай вучобы ва ўсёй нашай рабоце. На Сельмашы, „Пролетарыі“, „Працы“, Палесдруку, „Спартаку“, камбінаце імя Гікало і інш. прадпрыемствах паявіліся дзесяткі і сотні „отличников“ — ізотаўцаў—прыкладных людзей вытворчасці.

З небывала аграмадным пад‘ёмам праведзена сярод рабочых, служачых і калгаснікаў нашага раёна падпіска на пазыку „2-га году другой пяцігодкі. Гэтая, па-баявому праведзеная кампанія, — новы доказ праяўлення класавай свядомасці і разумення задач актыўнага ўдзелу ў будаўніцтве соцыялізма.

Праведзеная за два дні падпіска на пазыку—рэзультат арганізацыйнай перабудовы партыйнай і масавай работы.

Зроблена многа, але яшчэ больш напружаная работа ўперадзе. У дзень Першага мая мы асабліва падкрэсліваем нашы задачы, выцякаючыя з рашэнняў гістарычнага XVII з‘езда партыі. Не зазнаваючыся, ведаючы, пра аграмадныя недахопы, маючыяся ў нашай рабоце, шырока разгортваючы соцыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва мы павінны яшчэ ў большай ступені мабілізаваць усе сілы і сродкі—і поспех будзе забяспечан.

У дзень 1 мая мы яшчэ вышэй падымем сцяг пролетарскага інтэрнацыяналізма—сцяг Маркса-Энгельса-Леніна-Сталіна.

---

Імперыялісты рыхтуюць новыя войны, рыхтуюць напад на СССР. Пролетарыі і працоўныя ўсяго свету! Далоў правакатараў вайны! На абарону Совецкага саюза—бацькаўшчыны ўсіх працоўных.

Я. ШАФАРЭНКА.
(Артыкул сакратара ГК КП(б)Б)

# БОЛЬШЭВІКІ ГОМЕЛЯ Ў БАРАЦЬБЕ ЗА АЖЫЦЦЯЎЛЕННЕ ГІСТАРЫЧНЫХ РАШЭННЯЎ XVII З'ЕЗДА ПАРТЫІ

Сутнасць гістарычных рашэнняў XVII з'езда ВКП(б), указанняў тав. Сталіна і даклада тав. Кагановіча па пытанню перабудовы работы партарганізацыі заключаецца ў тым, каб ліквідаваць функцыянальную сістэму партыйнага кіраўніцтва, каб зрабіць кожнага члена партыі на любым участку больш баяздольным арганізатарам выканання штодзённых задач партыі. Дабіцца на гэтай аснове значна большага росту актыўнасці і адказнасці кожнай адзінкі нашай партыйнай, совецкай, гаспадарчай, прафесіянальнай сістэмы і іх работнікаў, будуючы ўсю работу на аснове дырэктыў партыі на ўсіх участках.

„Для гэтага ў першую чаргу неабходна арганізаваць, падняць масы, накіраваць гэту вялікую сілу на ажыццяўленне гэтых задач, бо на ўсіх этапах гэтага бою, пры ўсіх цяжкасцях, якія стаялі ў нас на шляху, ці ідзе гутарка аб барацьбе за ленінскае вучэнне аб пабудове соцыялістычнага грамадства ў асобна ўзятай краіне, ці ідзе гутарка аб канкрэтных палітычных лозунгах, ці ідзе гутарка аб пабудове і асваенні такіх гігантаў металургіі, як Магнітагорскі і Кузнецкі, аб арганізацыі соўгасаў, МТС, калгасаў, ОРС'аў, сталовых грамадскага харчавання і т. д. наш ленінскі ЦК і ранейй усяго т. Сталін узбройваў і арганізоўваў масы для пераможных баёў" (Л. М. Кагановіч).

Гэтыя ўказанні і з'яўляюцца той праграмай, якую ажыццяўляюць і абавязаны ажыццявіць поўнасцю ГК і ўся партарганізацыя пры правядзенні перабудовы работы партарганізацый. У нас перабудова пачалася з партыйнага апарата гарадскога камітэта партыі. Замест аддзелаў вылучаны інструктары, прымацаваныя да галін прамысловасці па вытворчаму прынцыпу (металаапрацоўчая, дрэваапрацоўчая, швейная, хімічная і інш.).

## I. Рэзка ўзнята дысцыпліна

Трэба адзначыць, што ліквідацыя аддзелаў і вызначэнне інструктароў адразу-ж рэзка ўзняло дысцыпліну ўсяго апарата партыйнага камітэта і змест яго ўнутранай работы. Калі да перабудовы комуніст, кіруючы работнік і рабочы не змаглі ў ГК хутка вырашыць патрэбнага пытання ў вячэрні свабодны ад работы час, то зараз, як правіла, увечары, пасля праведзенага дня на прадпрыемствах і вёсцы, адказны апарат ГК займаецца праапрацоўкай цакопленых пытанняў за дзень. У гэты час праходзяць гутаркі з дырэктарамі, з сакратарамі парткомаў, з асобнымі членамі партыі—рабочымі, якія (хоць яшчэ вельмі мала), але пачынаюць прыходзіць пасля работы ў ГК, да свайго інструктара для вырашэння цікавячых іх пытанняў.

Задача зрабіць партыйны апарат прыкладным ва ўсіх адносінах, глыбока і правільна пачынае пранікаць у стыль работы яго работнікаў. Аб гэтым гавораць такія факты, як штодзённая сувязь і пранікненне ў глыбіню ўсіх вострых пытанняў жыцця прадпрыемства цэха, брыгады, штодзённае падвядзенне вынікаў гэтай работы ў ГК і адпаведнае вырашэнне ўсіх пытанняў, паказвае шчыльную сувязь інструктароў з кіраўніцтвам ГК. Узняцце і аператыўнае вырашэнне цэлага рада пытанняў, жывая сувязь з месцамі—прадпрыемствамі, брыгадамі, асобнымі парторгамі, рабочымі.

## II. Як ніколі, сувязь з месцамі

Самае радаснае і самае важнае, што дала нашаму апарату перабудова—гэта, як ніколі раней, сувязь з месцамі, з участкамі, дзе вырашаецца барацьба за промфінплан, таваразварот, пасеўная і т. д. Да 4-х гадзін дня ўсе інструктары знаходзяцца на прадпрыемствах, чаго да гэтага часу абсалютна не было. Напрыклад, інструктар ГК па металапрамысловасці тав. Сігналаў раней быў загадчыкам агітмаса ГК. Ён калісь па 2 і 3 дэкады не заглядваў на прадпрыемствы, праседжваў днямі ў габінеце, займаючыся распрацоўкай дзесяткаў рэзалюцый і праводзячы шмат нарад. Зараз гэты-ж Сігналаў тры чверці сваіх рабочых дзён знаходзіцца на прадпрыемствах, у брыгадах, акунуўся ў кіпячы кацёл вытворчага і партыйнага жыцця, аказваючы нізоўцы—парторгам, канкрэтную дапамогу ў вырашэнні ўсіх чарговых пытанняў. Таксама гэта магчыма сказаць і аб інструктары т. Дзедковай—былым намесніку загадчыка аргаддзела гаркома і іншых.

Сакратары парткомаў заводаў „Пролетарый", дрэвакамбіната, „Спартак", „Везувій" і інш. на нарадзе трохкутнікаў, скліканай гаркомам, у адзін голас заявілі, што ніколі яны так не былі звязаны з гаркомам партыі, як зараз, праз інструктароў якія дапамагаюць ім у рабоце.

## III. Дапамога і ўвага дробным прадпрыемствам

Яшчэ адным паказальнікам узмацнення сувязі з кожным прадпрыемствам з'яўляецца дапамога і ўвага дробным прадпрыемствам. Іменна, па ініцыятыве інструктароў былі спецыяльна пастаўлены на бюро ГК пытанні аб рабоце дробных прадпрыемстваў: ложкавай фабрыкі, „Казімі", панчошнай фабрыкі, якім аказваецца вялікая практычная, штодзённая дапамога. Паказаныя прадпрыемствы ў рэзультаце гэтай дапамогі ліквідуюць сваё адставанне (панчошная фабрыка).

Такой-жа аператыўнай і канкрэтнай стала і работа сакратароў фабрычна-заводскіх парткомаў. Аднак было-б

грубай памылкай прайсці міма рада сур‘ёзных недахопаў, якія зараз ускрываюцца ў рабоце інструктароў ГК і рада сакратароў парткомаў. Гутарка ідзе аб наяўнасці рада фактаў, калі ў паасобных выпадках ва ўрон партыйнай рабоце, масава-выхаваўчай, вывучэнню людзей шляхам штодзённай сувязі з імі і дапамогі ім,— нашы інструктары, сакратары, самі гэтага не прыкмячаючы, *ператвараюцца ў простых падсобнікаў, хадатаяў*, прадстаўнікоў гаспадарнікаў, і нават у простых пасярэднікаў паміж імі і ГК.

На гэтае зло з большэвіцкай рэзкасцю абрушылася наша крытыка. Вакол канкрэтных фактаў былі мабілізаваны ўсе нашы інструктары і сакратары. Але-ж нельга не адзначыць той аграмадны напор, які мы ў гэтым напрамку адчуваем з боку шмат гаспадарнікаў і сакратароў камітэтаў, якія ва ўсіх гэтых выпадках праяўляюць забвенне партыйнай работы на прадпрыемстве, у цэху і брыгадзе.

Канешне, ні ў якой меры нельга сказаць, што гэта практыка зараз у рабоце нашых інструктароў знішчана канчаткова, але зусім відавочна, што пералом у лепшы бок ёсць вялікі. Гэты пералом ва ўзняцці партыйна-масавай работы на ўсіх участках, які ў рэзультаце даў значны зрух у рабоце, можна бачыць з наступнага.

## IV. Тэхвучоба—штодзённая справа

Здача тэхэкзамена стала на *большасці* прадпрыемстваў штодзённай справай. І зараз яна ператварылася ў масавы паход за аўладанне тэхнікай, за тэхнічна пісьменнага рабочага. Калі на 1 студзеня ахопленых тэхвучобай налічвалася адзінкамі, то зараз па прадпрыемствах тэхвучобай ахоплена 3949 чал., з якіх 290 здалі тэхэкзамен на „добра“ і на „вельмі добра“. Гэтыя лічбы патрэбна лічыць, як пачатак развіцця гэтай важнейшай справы. Гомельскім большэвікам патрэбна яшчэ болей працаваць, каб ахапіць усіх рабочых.

Каштоўным рэзультатам з‘яўляецца дапамога і штодзённая жывая сувязь з нізоўкай нашых інструктароў па чарговых пытаннях работы, і дапамога на месцы ў цэху, у брыгадзе. Ні на адным з нашых прадпрыемстваў мы не маем аслабанёных цэхавых парторганізатараў. Усе яны тут-жа працуюць ля варштатаў і з‘яўляюцца ўдарнікамі прадпрыемстваў.

На больш практычныя рэйкі перайшло соцспаборніцтва на прадпрыемствах. І ўнутры прадпрыемстваў у гэтых мэтах практыкуюцца частыя сустрэчы ўдарнікаў спаборнічаючых прадпрыемстваў, дзе абменьваюцца лепшым вопытам. Асабліва варта адзначыць аграмадныя рэзультаты, якія дасягнуты за час падрыхтоўкі і правядзення агульна-гарадской канферэнцыі ліцейшчыкаў, пасля якой на заводах „Пролетарый“, „Рухавік рэволюцыі“, Сельмаш процант браку ліцця даведзен з 15-20 да 5 і ніжэй, а паасобныя брыгады і рабочыя зусім знішчылі брак.

## V. За чысты горад, дом, цэх...

Масавы і канкрэтны характар прыняла барацьба за чысты горад, дом, цэх, заводскі двор, інтэрнат і т. д. У гэтую справу ўключаны рабочыя, іх жонкі, піонеры, дворнікі, старшыні ЖАКТ‘аў, партыйны, совецкі і комсамольскі актыў. Горад раздзелен на ўчасткі, дзе кіруе тройка з адказных таварышоў членаў ГК і гарадскога партактыву, у тым ліку і інструктары ГК. У выніку фасады дамоў пераафарбаваны. Цэхі, якія за многія годы не чысціліся, зараз пачышчаны, чыняцца тратуары, мастувыя, рамантуюцца вароты, на балконах дамоў паявіліся скрынкі для кветак, вывозіцца смецце з двароў, разгортваецца спаборніцтва за чыстую кватэру, двор, інтэрнат. Вуліцы азелянёны новымі дрэвамі.

Вялікая ўвага ўдзяляецца зараз рабочаму забеспячэнню, рэалізацыі ўказанняў т. Сталіна аб уласнай спажывецкай базе. У мінулым годзе на 5 красавіка было вывезена 75 проц. гною, у гэтым годзе на гэтае-ж чысло прадпрыемствы вывезлі гною на свае палі 96,5 проц., больш чым у мінулым годзе на 14.000 тон. Інструктары ГК і большасць сакратароў і трохкутнікаў прадпрыемстваў ушчыльную заняліся паляпшэннем забеспячэння і быта рабочых.

Інструктар *Дзедкова* на шклозаводзе імя Сталіна дабілася адчынення буфета ў цэху, знішчыла такую агіднасць, як адсутнасць лыжак і відэлец у сталоўцы. Інструктар таварыш *Пазняк* спецыальна склікаў прыбіральшчыц і камендантаў інтэрнатаў на дрэвакамбінаце па пытанні аб чыстаце. На Гомсельмашы наведзен парадак у двары завода, пад‘езд да яго акружан пасаджанымі дрэвамі, добрай мастовой, разгортваецца работа па азеляненю цэхаў. *Хацелася-б, каб т. Гікало, калі ён быў на Сельмашы ў канцы 1933 г. і ўказаў на бруд у двары, у сталовай і цэхах, пабываў зараз і аглядзеў, як сельмашаўцы, носячыя імя т. Кагановіча, падцягнуліся, выканалі промфінплан і рэалізавалі ўказанні т. Гікало аб чыстаце.*

Па-аперацыйнаму ўзяліся інструктары і за якасць прадукцыі, штодзённа, а не ад выпадку да выпадку займаючыся гэтымі пытаннямі.

## VI. За 48 гадзін!

Вельмі яскравым паказальнікам перабудовы ў галіне ўзмацнення ў цэхах, брыгадах арганізацыйнай і партмасавай работы з‘яўляецца факт рэалізацыі пазыкі па гораду за 48 гадзін. Гэта дасягнута таму, што партарганізацыя, парторгі і комуністы здолелі правільна скарыстаць тую аграмадную актыўнасць і пад‘ём, якія выявілі гомельскія пролетарыі пры правядзенні падпіскі на пазыку. Правядзенне падпіскі паказала на большасці прадпрыемстваў чоткасць і аператыўнасць у гэтай рабоце з боку парторгаў, парткамітэтаў, непасрэдную дзелавую дапамогу кожнага інструктара.

У цэлым палепшыўся змест нашай масавай работы на радзе прадпрыемстваў. Правільна зразумелі значэнне ў мас-

вай рабоце лозунгаў і іх афармленне ў клубах, цэхах і т. д. Аднак, яшчэ маюць месца і недапушчальныя адносіны да лозунгаў („Спартак“, Добруш), дзе зараз іх можна знайсці аб падрыхтоўцы да Окцябрскай рэволюцыі, да XVII з‘езда і т. п. Гэта і ёсць паказальнік фармальнай перабудовы і дрэннай масавай работы.

На многа палепшылася партвучоба. Процант наведвання палітшкол за апошнія месяцы дасягае да 90, замест 80 да лютага месяца. Па радзе прадпрыемстваў наведванне даходзіць да 96 проц. Вялікую зацікаўленасць праявілі партарганізацыі да прапрацоўкі рашэнняў XVII партыйнага з‘езда. Лепшы прыклад у арганізацыі партвучобы паказваюць Сельмаш, „Пролетарый“, „Праца“, дрэвакамбінат імя Гікало. Поруч з гэтым мы маем рад прадпрыемстваў, зрываючых гэтую справу („Везувій“, электрастанцыя, „Рухавік рэволюцыі“, водны транспарт).

Вялікае месца ў рабоце гаркома займае работа з інструктарамі. Перыядычныя нарады інструктароў, кіруемыя сакратаром гаркома, альбо яго намеснікам, абгаварваюць важнейшыя пытанні партыйнай работы і абменьваюцца вопытам работы.

## VII. Праверку выканання— у цэнтр увагі

Аднак, у парадку самакрытыкі трэба прызнаць, што пакуль у гэтым важнейшым пытанні мы яшчэ шмат адстаем, сістэматычная дзелавая праверка ў нас яшчэ нядобра пастаўлена. Зараз ГК на гэтую справу мабілізоўвае ўвагу ўсяго свайго апарата, партгруп советцкіх, профсаюзных і іншых арганізацый і ў асаблівасці інструктароў ГК і парткамітэтаў прадпрыемстваў, задача якіх састаіць у забеспячэнні праверкі выканання рашэнняў партыі па сутнасці. Абучаючы на гэтым і дапамагаючы нізоўцы ў правільным правядзенні рашэнняў партыі па сутнасці, а не па форме, як гэта мела месца ў галіне вывучэння і прапаганды рашэнняў XVII з‘езда, калі ў радзе выпадкаў адабраліся гэтыя рашэнні без таго, каб у цэлым прадпрыемствы, па-асобку брыгада і рабочыя дабіліся паказальнікаў лепшай работы.

На ўсю шырыню разгарнулася і хутка скончыцца перабудова партарганізацый на мясцах, у нізоўцы. Зробленае дае нам магчымасць ужо зараз расказаць аб station станоўчых і адмоўных фактах гэтай работы па Гомелю.

Напрыклад, па машына-будаўнічаму заводу „Пролетарый“ замест 6 цэхавых парт‘ячэек створаны 6 цэхавых партарганізацый з 11 партгрупамі і 4 парторгамі. Бюро ячэек ліквідавана і замест іх абраны цэхпарторгі.

У Палесдруку створан партком, па ўсіх цэхах абраны парторгі, створана 13 партгруп, парт.-канд. груп 3.

На каніфольным заводзе да рэарганізацыі было 5 членаў партыі і 5 кандыдатаў, а ў бюро парт‘ячэйкі ўходзіла 3 ч. з аслабанёным сакратаром. Зараз там выбран парторг, не аслабанёны ад работы на вытворчасці. На фабрыцы „Казімі“ 17 членаў партыі і 6 кандыдатаў. Там было бюро партkалектыва з 7 чалавек і аслабанёны сакратар. Зараз там выбран партком з 3-х чал., выбраны 3 партарганізатары па цэхах. Таксама зроблена па заводзе „Чырвоны хімік“.

З былых аслабанёных работнікаў парткалектываў і ячэек у сувязі з перабудовай пераведзены на партработу непасрэдна ў цэхі па 11 парткомах 9 чал.

У сувязі з выбарамі парткомаў большасць з іх абноўлены ў сваім складзе за лік лепшых рабочых. Напрыклад: на шклозаводзе склад бюро абноўлен на 3 члены парткома з 5, на „Казімі“—на 2 з 3-х, на дрэвакамбінаце—на 25 проц. Абноўлен склад таксама па Сельмашы, на заводзе „Пролетарый“ і інш.

Перабудова партработы на мясцах прымусіла лепш падрыхтоўвацца да партсходаў (завод „Пролетарый“, Сельмаш). Вельмі важна адзначыць, што партыйныя групы на такіх прадпрыемствах, як „Пролетарый“, Сельмаш і інш. сваю практычную работу шчыльна ўвязваюць з выкананнем рашэнняў XVII з‘езда партыі, гістарычных указанняў т. Сталіна. Напрыклад, на заводзе Сельмаш і „Пролетарый“ партыйныя групы вядуць вялікую работу па асваенню новых відаў машын (малатарня, станок „Калава“).

## VIII. Т. Смірноў і яго партгрупа

У барацьбу з бракам уключылася партгрупа ліцейнага цэха завода „Пролетарый“ (парторг т. Смірноў), і ў яе процант браку ліцця замест планавых 6 даведзен да 2,7. Узняўся інтарэс да аўладання партвучобай, да аўладання тэхнічнымі ведамі (на „Пролетарыі“—400 чал. ахоплены тэхвучобай, на Сельмашы—400 ч., на „Рухавіку рэволюцыі“ і ЦЭС—амаль усе рабочыя і інш.). Мы маем шмат добрых баявых парторгаў. Напрыклад, Умань—группарторг шчаціннай, Брыч—панчошная фабрыка, Альшэўскі—шклозавод, Рабіновіч—Палесдрук, Толкачоў—„Герой працы“ і інш.

Перабудова партработы ў нізоўцы высунула новых, дагэтуль невядомых здольных партыйных кіраўнікоў у цэху, у брыгадзе, людзей, якія непасрэдна працуюць ля варштата. І гэтыя новыя сотні нашых нізавых партыйных кадраў штодзённа на сваіх невялікіх, але вельмі важных участках, робяць большэвіцкую справу.

Вылучаны ў парторгі і групparторгі радавыя камуністы рабочыя, якія зараз паказваюць большэвіцкі прыклад, як трэба працаваць. Да іх належаць Смірноў—парторг ліцейнага цэха зав. „Пролетарый“, Сокалаў—парторг Гомсельмаша імя Кагановіча, Яглейка—Гомельская ЦЭС і шмат іншых.

Парторг механічнага цэха зав. Сельмаш т. Кеслер вельмі правільна ўлічыў, што ў цэху з 153 рабочых усяго 5 членаў партыі і 6 кандыдатаў, а астатняя моладзь—комсамольцы і беспартыйныя кадравыя рабочыя, ён увесь цэнтр сваёй работы перанёс у іх асяроддзе. Для гэтага т. Кеслер дома

за чашкай чаю сабраў камсамольцаў і камуністаў цэха, пагутарылі аб рабоце цэха, вызначылі канкрэтныя мерапрыемствы. Ён часта прыходзіць на работу 3-й змены, бо гэта закінуты ўчастак. Кеслер дабіўся таго, што беспартыйны рабочы т. Арлоўскі—лепшы ўдарнік завода, прыймае самы актыўны ўдзел у грамадскім і вытворчым жыцці цэха. Таксама ён дабіўся і ад рабочага Якаўлева, які па яго заданню выязджаў у падшэфны сельсовет. Партгрупа Кеслера дабілася замест 8 шасцёрак для коннага прывода—выпуска 10 і без браку.

Парторг чыгунна - ліцейнага цэха зав. „Пролетарый" т. Смірноў з сваёй партгрупай мабілізаваў рабочых, кадравікоў, дабіўся замест 10 проц. браку ліцця ў лютым—да 2,8, а ў паасобных брыгадах да 0,7 у сакавіку. Новае ў рабоце парторга Смірнова—шчыльная сувязь з парторгамі іншых цэхаў, праз якіх ён праводзіць рад мерапрыемстваў для паляпшэння работы свайго цэха і цэхаў сваіх таварышоў. Напрыклад, парторг механічнага цэха т. Кушняроў скардзіцца, што чыгунна-ліцейны цэх недадае помп. Смірноў зараз прыймае меры, мабілізуе вакол гэтага рабочых, каб не дапусціць прарыва ў механічным цэху.

Цікавы вопыт парторга т. Эстрына з завода „Пролетарый", які арганізаваў у сваёй брыгадзе культурны фонд у 150 руб, за лік якога ў выходныя дні ўся брыгада ходзіць калектыўна ў тэатр, кіно. Гэта-ж брыгада вядзе работу па азеляненню свайго цэха.

Парторг кандыдацкай групы абрубачнай брыгады Гомсельмаша т. Жэлезнякоў прымацаваў да невыконваючага свой план т. Барысенка лепшага ўдарніка т. Сярэнкова і дабіўся, што Барысенка выконвае план на 130 проц.

Парторг наборнага цэха Палесдрука т. Гіршына з месяца ў месяц перавыконвае свой промфінплан, дае высокую якасць прадукцыі. Т. Злацін—цэхпарторг камбіната імя Гікало, дабіўся, што яго цэх, які ўвесь час быў у прарыве, у сакавіку месяцы выканаў свой план на 109 проц. У сувязі з перабудовай узмацнілася работа парткомаў з сваімі партарганізатарамі. („Пролетарый", Сельмаш, „Праца" і інш.).

## IX. Асвоіць лепшы вопыт маскоўскіх бальшэвікоў

Для ўзбагачэння лепшым вопытам перабудовы партработы інструктароў ГК, партарганізатараў, гарком (як прэмія за лепшую работу), паслаў у Маскву 10 лепшых парторгаў. Дэлегацыя азнаёмілася з вопытам перабудовы на перадавых прадпрыемствах сталіцы, адчыталася на шырокім актыве. Зараз выдаецца спецыяльны ліст вопыта маскоўскіх бальшэвікоў, каб навучыць добра, перанесці яго к сабе.

Безумоўна, што поруч з станоўчымі прыкладамі, ёсць і нямала фактаў, дзе да перабудовы падышлі фармальна. Такія прадпрыемствы, як ЦЭС, „Герой працы", спіртзавод, „Чырвоны хімік" і інш. у галіне перабудовы раскачваюцца па „верблюжьи".

У нас ёсць факты няправільнага правядзення гэтай работы. Напрыклад: у партkомах горсовета АСО і канторы сувязі фармальна перафарбавалі шыльду, тое-ж самае бюро ячэйкі назвалі парткомам і рашылі, што на гэтым скончылася іх „праца", скончылася перабудова. Бюро ГК, па сігналах інструктароў, хутка рэагавала на гэтыя факты, мабілізавала вакол увагу ўсёй партарганізацыі і выпраўляе выяўленыя недахопы.

## X. З бальшэвіцкай упартасцю змагацца за перабудову партработы

У нас таксама ёсць рад парторгаў, якія працуюць недапушчальна дрэнна, не перабудавалі сваю работу. Прыкладам у гэтых адносінах могуць служыць парторг папяровай фабрыкі „Герой працы" т. Буханко, парторг зав. „Чырвоны хімік" т. Губін і інш.

У выніку такіх абураючых адносін да перабудовы на паасобных прадпрыемствах, мы маем ганебны зрыў выканання промфінплана („Казімі", „Чырвоны хімік", „Герой працы" і інш.), а іх невыкананне плана цягне ўсю прамысловасць Гомельшчыны ўніз. Безумоўна, што на гэтых прадпрыемствах перабудова не пранікла ва ўсе поры работы, не стала галоўным рухаючым рычагом. Буйнейшая фабрыка „Герой працы" толькі за апошні час, пасля аднаўлення парткіраўніцтва, пачынае паляпшаць сваю партмасавую работу і ў сувязі з гэтым выкананне промфінплана.

Як адзін з метадаў наблюдэння работы ГК да вёскі, для больш глыбокай канкрэтнай дапамогі нізавым партарганізацыям сельсоветаў і калгасаў у правядзенні веснавой сяўбы, бюро ГК арганізавала выязныя пасяджэні бюро ў Пакалюбіцкім, Прыбыткаўскім, Бабовіцкім, Клімаўскім, Цярэшкаўскім сельсоветах, дзе ўдзельнічалі партыйцы, комсамольцы і брыгадзіры калгасаў. Папярэдня выязджаючыя брыгады гаркома, куды ўваходзілі і спецыялісты, усебакова абследвалі работу сельсовета, партгрупы і калгаса. Гэтыя брыгады на выязных бюро выступалі з садакладчыкамі па справаздачах калгаса, сельсовета, партгрупы.

## XI. Больш увагі сялу!

Акрамя абследвання брыгады практычна дапамагаюць у рабоце на мясцах. Вопыт выязных бюро непасрэдна ў калгасы і сельсоветы заслугоўвае далейшага прымянення. Задача, як і ва ўсёй рабоце, састаіць у тым, каб правяраць выкананне гэтых рашэнняў і не дапусціць, каб яны ператварыліся ў парадныя рашэнні.

Працягам работы па ўзмацненню практычнай сувязі з калгасамі з'яўляюцца раённы злёт калгасных брыгадзіраўударнікаў непасрэдна ў адным з лепшых калгасаў раёна імя Леніна і злёт брыгадзіраўжывёлаводаў. На гэтых - жа злётах былі сустрэчы брыгадзіраў-калгаснікаў з брыгадзірамі прамысловасці і заклю-

чаны дагавары паміж брыгадзірамі-калгаснікамі і брыгадзірамі прадпрыемстваў на спаборніцтва за лепшае правядзенне сяўбы, барацьбы за жывёлагадоўлю, за большэвіцкія паказальнікі промфін плана. І гэта мерапрыемства ёсць рэалізацыя рашэнняў XVII з'езда ў галіне канкрэтызацыі пролетарскага ўплыву на сяле.

З усёй рэзкасцю трэба адзначыць, што перабудова партарганізацыі на сяле—наш слабы ўчастак. Па многіх сельсоветах і калгасах мы не маем падабраных, моцных партарганізатараў. Вельмі дрэнна пастаўлена справа соцспаборніцтва на вёсцы, разгортванне партмасавай работы. Іменна з гэтай прычыны наш раён мае толькі 35,2 проц. калектывізацыі. З прычыны слабай партмасавай работы, ігнаравання з боку многіх сельсоветаў і гарЗА работы з аднаасобнікамі, на што нам правільна ўказаў ЦК КП(б)Б, мы на сёння маем па гэтым сектары недапушчальнае адставанне ў разгортванні сяўбы.

Не зусім яшчэ наладзілі сваю работу на вёсцы і інструктары ГК, пасаджаныя зараз на час сяўбы кожны ў групе сельсоветаў сумесна з агра-вет. спецыялістамі.

Вельмі сур'ёзным недахопам, з'яўляецца дрэнная работа са спачуваючымі. Тут вельмі слаба яшчэ працуюць інструктары ГК і партарганізацыі на мясцах. Гэтую вялікую і важную справу мы абавязаны неадкладна, не чакаючы ніводнай мінуты, па-большэвіцку арганізаваць.

* *
*

Такавы асноўныя вынікі работы па перабудове за перыяд пасля XVII з'езда ВКП(б). Зусім відавочна, што перабудова ўжо зараз вельмі ярка на практыцы паказала тую большэвіцкую сілу, якой яна з'яўляецца ў барацьбе за выкананне пастаўленых перад намі задач. Ніколі так актыўна, так глыбока не пранікалі ў масы і не праводзіліся мерапрыемствы партыі, як зараз. Аднак, гэта верна для тых, хто па сутнасці штодзённа змагаецца і арганізоўвае масы на выкананне чарговых задач, але мы маем яшчэ ўчасткі і нават партарганізацыі, дзе работа адстае, дзе рэалізацыя рашэнняў XVII партыйнага з'езда яшчэ не ператворана ў канкрэтную, баявую праграму. Над гэтымі ўчасткамі трэба нам усім паработаць, каб ліквідаваць адставанне.

Гомельская партарганізацыя, якая ўзначальвае адзін з буйнейшых пролетарскіх цэнтраў Совецкай Беларусі, не пакладаючы рук, не зазнаючыся, на падставе аграмаднай дапамогі ЦК КП(б)Б, работаючы сталінскім стылем, сістэматычна, а не кампанейскі, павінна знішчыць маючыяся яшчэ вялікія недахопы ў сваёй рабоце, па большэвіцку працягваць работу па перабудове, каб гэтым самым забяспечыць высокае званне адной з вядучых партарганізацый ВКП(б) у выкананні гістарычных рашэнняў XVII з'езда і ўказанняў любімага і дарагога правадыра нашай партыі і рабочага класа т. Сталіна.

---

„Пасля таго, як дана правільная лінія, пасля таго, як дано правільнае вырашэнне пытання, поспех справы залежыць ад арганізацыйнай работы, ад арганізацыі барацьбы за правядзенне ў жыццё лініі партыі, ад правільнага падбора людзей, ад праверкі выканання рашэнняў кіруючых органаў. Без гэтага правільная лінія партыі і правільныя рашэнні рызыкуюць пацярпець сур'ёзную страту. Больш таго, пасля таго, як дана правільная палітычная лінія, арганізацыйная работа вырашае ўсё, у тым ліку і лёс самой палітычнай лініі,—яе выкананне ці яе правал"

(СТАЛІН).

---

# РАБОТА ІНСТРУКТАРОЎ ГАРКОМА ПАРТЫІ

## РЭЗУЛЬТАТ ПЕРАБУДОВЫ

Пасля перабудовы работы гаркома КП(б)Б я пачаў абслугоўваць групу швейна-скураной і трыкатажнай прамысловасці. Першым маім крокам было дэтальнае азнаямленне з людзьмі, кіраўнікамі, партыйным актывам і з становішчам спраў у далучаных да мяне прадпрыемствах.

Да перабудовы звычайна найбольшая ўвага ўдзялялася буйным прадпрыемствам, больш дробныя часам упускаліся з поля зроку.

Я пачаў удзяляць максімум увагі тым прадпрыемствам, на якіх становішча больш нездавальняючае.

Панчошная фабрыка імя 8 сакавіка з квартала ў квартал не выконвала плана. Часта фабрыка не працавала з-за адсутнасці сыравіны. Пачаў вывучаць прычыны. Аказалася, што гаспадарчае кіраўніцтва не забяспечвае справы, а партыйнае кіраўніцтва мякка, па гнілаліберальнаму рэагуе на ўсе гэтыя з'явішчы.

Не была арганізавана тэхнічная вучоба, людзі не асвоілі сваіх вытворчых працэсаў, і, як рэзультат, у 1933 годзе мы мелі на фабрыцы перавыдатак іголак на 30 проц. Больш таго, фінансавае становішча было развалена. Фонды і нарады на сыравіну меліся, а сыравіна не выкупалася з-за адсутнасці сродкаў, у той час калі на складзе мелася гатовай, нерэалізаванай прадукцыі на дзесяткі тысяч рублёў.

Чаму гэта так здарылася? Таму, што партыйныя сілы былі расстаўлены няправільна, партыйна-масавая работа адсутнічала, не было партыйнай патрабавальнасці да комуністаў, соцыялістычнае спаборніцтва праводзілася фармальна. Не было нават штодзённага ўчота выпрацоўкі норм па агрэгатах і цэхах, а адсюль і прарыў.



Пачаў я ўказваць сакратару парткома Навіцкай на яе недахопы, потым пачаў правяраць, як яна выконвае мае ўказанні. Спачатку сам гутарыў з дырэктарам адносна недахопаў, але-ж справа не рухалася. Выклікаў яго ў гарком партыі, дзе яго спачатку катэгарычна папярэдзілі, а потым рашэннем бюро гаркома з работы знялі і прызначылі новага дырэктара.

Сумесна з Навіцкай намецілі план перабудовы, расстаноўку партсіл па цэхах, пачалі праводзіць партмасавую работу, прапрацоўваць газетны матэрыял, моцна ўзяліся за глыбокае вывучэнне даклада тав. Сталіна. Я перыядычна даваў заданні, растлумачваў, як праводзіць іх у жыццё і пры кожным прыходзе на прадпрыемства правяраў, што праароблена па маіх указаннях.

Часта гутарыў з парторгамі аб іх рабоце. Парторг Брыч раней нічога не жадаў рабіць, а зараз ён лепшы парторг. Наладзілі індывідуальны ўчот выканання плана па цэхах, наладзілі работу гурткоў тэхнічнай вучобы, вакол ненаведваючых стварылі шырокую грамадскую думку.

На пасяджэнні парткома моцна паругаў трохкутнік за прыход на прадпрыемства а 10, а часам і а 11 гадз. Зараз трохкутнік прыходзіць на прадпрыемства да пачатку работы, арганізоўвае работы. Таксама па маёй ініцыятыве арганізавана дзяжурства кіраўнікоў прадпрыемстваў у вячэрніх зменах. У рэзультаце перабудовы ў апошнія дзве дэкады сакавіка план выканан на 114 проц. і за першыя 2 дэкады красавіка—на 116 проц.; брак—2,8, замест планавых 5 проц.

Разам з сакратарамі парткомаў Ліўшыцам, Гутам, Шчэлікавым, Розенбаумам я азнаёміўся з саставам калектываў, намеціў план перабудовы і правільнай расстаноўкі партыйных сіл. Сістэматычна гутару з партыйнымі арганізатарамі аб мэтадах прапрацоўкі даклада тав. Сталіна. Напрыклад, я гутарыў з тав. Ліберманам, аб скарыстанні гадзінных перапынкаў, з тав. Брычам аб задачах тэхнічнай вучобы, з тав. Баргер—аб авангарднай ролі комуністаў у цэху, з тав. Умань і г. д. і г. д.

Пазыка па абслугоўваемых мною прадпрыемствах рэалізавана звыш, чым на 100 проц.

Асабліва вялікую ўвагу ў апошні час я ўдзяляў ачыстцы цэхаў і двароў прадпрыемстваў. Ва ўзорны парадак прыведзена тэрыторыя фабрыкі „Праца" і аўчына-шубнага завода, зроблены клумбы, прыводзіцца ў парадак тэрыторыя панчошнай ф-кі.

У сучасны момант удзяляю ўвагу тэхнічнай і партыйнай вучобе, здачы палітзалікаў па дакладу тав. Сталіна і

падрыхтоўцы да 1 мая. Асабліва націск раблю на якаснае выкананне кожным прадпрыемствам вытворчых заданняў і на барацьбу за авангардную ролю комуніста на ўчастках, дзе яны працуюць.

За апошнія 2 дэкады красавіка ўсе абслугоўваемыя мною прадпрыемствы выканалі промфінплан. Гэта—першы рэзультат сапраўднай перабудовы партыйнай работы.

Безумоўна, яшчэ далёка не так, як след, у абслугоўваемых мною калектывах перабудавана ўся работа. Яшчэ ёсць цэлы рад буйных недахопаў. Фабрыка „Праца" яшчэ і сёння, замест прадугледжаных планам 91 проц. абутку 1-га гатунку, дае толькі 85—87 проц. Гэта яшчэ вельмі дрэнныя вынікі, і ў іх, безумоўна, вінават і я як інструктар.

Хоць я і часта гутару з партыйнымі арганізатарамі цэхаў, але яшчэ далёка недастаткова ўвагі ўдзяляў групартарганізатарам, на што я звярнуў сваю ўвагу.

За гэты перыяд, безумоўна, зроблена многае, але для таго, каб перабудаваць партыйную работу глыбока па сутнасці ў духу рашэнняў XVII партз'езда, патрэбна яшчэ шмат чаго зрабіць.

Інктруктар ГК КП(б)Б

Гарэлік.

# МЫ БУДЗЕМ ПРАЦАВАЦЬ ЯШЧЭ ЛЕПШ

Перабудова партработы на аснове рашэнняў XVII з'езда ВКП(б) з першых дзён дала добрыя вынікі.

Панчошная фабрыка з года ў год не выконвала вытворчай праграмы, а з першых дзён перабудовы партработы ў другой палове сакавіка выкананне плана пайшло ўгору: за трэцюю дэкаду сакавіка праграма выканана на 114 проц., на 27 красавіка месяца промфінплан выканан на 100 проц., брак—2,8 проц. (план—5 проц.).

У чым сакрэт такіх зрухаў?

Па-першае, у перанясенні ўсёй партработы непасрэдна ў цэх, партгрупу, што дало магчымасць уцягнуць у актыўную партыйна-масавую работу радавых комуністаў, камсамольцаў і беспартыйных. Значна ўзмацнілася работа ў цэхах.

Да перабудовы партработы іскавала адна насценгазета, якая выпускалася раз у 2-3 месяцы. Зараз кожная партгрупа (іх ёсць 3) мае свае насценгазеты, якія выходзяць кожныя 5 дзён. Разам з гэтым вырасла праслойка рабкораў.

Лепшымі партгрупамі з'яўляюцца № 2 і 3 (группарторгі тт. Брыч і Астроўская). Па гэтых партгрупах забяспечана рэгулярнае правядзенне чытак у часе абедзенага перапынку. Паміж партгрупамі заключаны соцыялістычныя дагавары на лепшую пастаноўку работы, павялічана выпіска газет (75 проц. беспартыйных рабочых, усе комуністы і камсамольцы ахоплены падпіскай). Значна ўзрасла актыўнасць і сярод беспартыйных.

Па-другое, замест ранейшых частых пасяджэнняў і прыняцця вялікіх пастаноў бюро ячэйкі, мы перайшлі на жывое, аперацыйнае кіраўніцтва непасрэдна ў цэху, брыгадзе (шляхам дачы даручэнняў і заўваг і склікання таварыскіх нарад). Устаноўлена сталае дзяжурства кіруючых таварышоў у вячэрніх зменах. Гэта забяспечыла роўнамернае абслугоўванне змен.

Некалькі горш абстаіць справа з тэхпрапагандай. Толькі пачынаючы з 20 красавіка, пачалі здачу тэхэкзамена па вядучых працэсах. За першыя 2 дні здалі 9 чалавек, з іх 5 чал.—на „отлично", 3 чал—на „добра" і 1 чал.—на „здавальняюча".

Не лепш абстаіць справа з партвучобай. Школа працуе ў адну змену, а слухачы працуюць у 3 змены, што значна адбіваецца на наведванні школы.

У нас ёсць усе магчымасці работаць значна лепш, і мы так і будзем работаць.

Сакратар паркома панчошнай фабрыкі Навіцкая.

„Мы павінны апраўдаць сваёй работай ганаровае званне ўдарнай брыгады пролетарыяў усіх краін. Гэта абавязвае нас да таго, каб работаць лепш і змагацца лепш за канчатковую перамогу соцыялізма ў нашай краіне, за перамогу соцыялізма ва ўсіх краінах". (І. СТАЛІН).

# ПАРТРАБОТА Ў ПРАМЫСЛОВЫХ АРЦЕЛЯХ

Я, як інструктар гаркома партыі, абслугоўваю партарганізацыі прамысловай, інваліднай, жыллёвай кааперацыі і нашых поўвытворчых прадпрыемстваў і ўстаноў.

У горадзе налічваецца 17 промарцелей, у якіх налічваецца да 2 тысяч чалавек. Гэтыя промарцелі вырабляюць розныя каштоўныя прадметы шырспажыва: абутак, трыкатажна - панчошныя вырабы, меблю, ложкі, мыла гаспадарчае, хімічныя фарбы, грэбні і інш. Як відаць, арцелі адыгрываюць вялікую ролю ў павелічэнні тавараразвароту, задавальненні спажыўца неабходнымі таварамі. І таму асабліва важна тут партыйна-масавая работа, без якой немагчыма вырашыць пастаўленыя задачы.

Партыйная праслойка ў арцелях зусім слабая. Толькі ў 12 арцелях налічваецца 3-4 проц. комуністаў да агульнай колькасці працуючых у арцелях. Непасрэдна працуючых ля станка комуністаў налічваюцца адзінкі. Гэта стварыла цяжкасці ў расстаноўцы партыйных сіл і патрабавала наогул паступовага ўмацавання арцелей дадаткова комуністамі. Гэта дало магчымасць зараз стварыць тры парткомы: пры скурабутковым, швейтэкстыльным і лесдрэўхімічным саюзах з парторгамі і партгрупамі пры арцелях.

Пры промсаюзах абраны 10 парторгаў з группарторгамі і 7 прымацаваных да арцелей. Такое становішча з партыйнай праслойкай прымусіла мяне ўдзяляць больш часу непасрэднаму наведванню прадпрыемстваў і вывучэнню людзей. Сваім наведваннем я ахапіў большасць промарцелей.

У часе наведвання я гутарыў з асобнымі работнікамі арцелей, ударнікамі, якія мне дапамагалі высвятляць прычыны адсталасці промарцелей. На першых парах мне прыходзілася шмат увагі ўдзяляць гаспадарча-вытворчым пытанням, асабліва звязаным з выкананнем арцелямі промфінплана.

Выкананне промарцелямі промфінплана ўвесь час нездавальняючае. Промсаюзы—скурабутковы, лесдрэўхімічны і швейтэкстыльны—не зразумелі рашэнняў 17-га з'езда партыі і асабліва гістарычнага даклада т. Сталіна, у якім тав. Сталін прапанаваў „разгарнуць выраб тавараў шырспажыва па ўсіх гаспадарчых наркаматах, развязаць савецкую прамысловасць, даць ёй магчымасць праявіць ініцыятыву ў вырабе тавараў шырспажыва і аказаць ёй магчымую дапамогу сыравінай і сродкамі“.

Выкананне гэтай палітычна-гаспадарчай задачы патрабавала ад промкааперацыі скарыстаць усе магчымасці ў выкарыстанні адыходаў прамысловасці і забеспячэнні арцелей сыравінай шляхам самазагатовак. Промарцелі адсталі з прычыны дрэннай работы і ў рэзультаце таго, што промсаюзы не перабудавалі сваёй работы ў адпаведнасці з рашэннямі 17-га з'езда партыі, не ліквідавалі канцылярска-бюракратычных метадаў кіраўніцтва і, галоўнае, не звярнулі ўвагі на арганізацыю працы і вытворчасці ў арцелях, не вялі барацьбы з расхлябанасцю, нізкай працоўнай дысцыплінай, не змагаліся за добраякасны асартымент прадукцыі, за зніжэнне накладных выдаткаў і вельмі высокага сабекошту і не праявілі дастатковай ініцыятывы для загатовак сыравіны.

Да гэтых адмоўных бакоў трэба яшчэ дадаць тое, што соцспаборніцтва і ўдарніцтва ў промарцелях вельмі слаба разгорнута, слаба пастаўлена палітмасавая і культурная работа, што ў значнай меры прывяло кааперацыю да такога рэзкага адставання.

Патрэбна было мабілізаваць масу арцельшчыкаў на стварэнне рашучага пералому, на выкананне сваіх вытворчых заданняў.

Арцелям дзякуючы ўключэнню ў конкурс, абвешчаны газетай „Октябрь“, а таксама ў сувязі з вытворчым паходам імя XVII з'езда партыі ўдалося ўцягнуць значную частку арцельнай масы ў соцыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва.

Гарком КП(б)Б два разы за гэты перыяд, пад непасрэдным кіраўніцтвам тт. Шафарэнка і Гайдукевіча, склікаў нарады партыйцаў, работаючых ў промкааперацыі і арцелях, на якіх абгаварвалася пытанне аб рабоце арцелей. Бюро ГК вынесла разгорнутае рашэнне аб рабоце промкааперацыі, мабілізавала ўвагу партарганізацый промкааперацыі і сваімі канкрэтнымі рашэннямі дало магчымасць мясцовым арганізацыям—горсовету, дзяржпрамысловасці і інш.—аказваць ім усякую дапамогу нароўні з дзяржпрамысловасцю.

Перабудова партработы, практычная дапамога гаркома далі некаторы зрух у рабоце прамысловых арцелей. Ужо на працягу першага квартала пачынае выходзіць з прарыву рад арцелей: „Гомтэкстыль“ выканала план першага квартала на 108,1 проц., „Праца“—на 109,7 проц., „Другая пяцігодка“—на 103,8 проц., „Молат“—на 112,8 проц., „Перамога“—на 103 проц., „Чырвоны Кастрычнік“ — на 105 проц., „Гомхарчавік“—на 114,7 проц.

„Гомхарчавік“ дзякуючы атрыманым у рэзультаце абвешчанага конкурсу на лепшую арцель перамогам—перавыкананню промфінплана першага квартала—атрымаў зараз пераходны сцяг ад свайго саюза.

Аднак яшчэ і зараз значная частка промарцелей не выконвае сваіх промфінпланаў: „Каапершлях“ выканаў план першага квартала на 73,1 проц. (старшыня арцелі Фарбераў і парторг Белаусаў), „Чырвоны рымарнік“ — на 59,1 проц. (старшыня Хайкін і парторг Курлянд), „Прагрэс“—на 58,3 проц. (старшыня Протчанка і парторг Кірпічнікаў), „Яднанне“—на 59,3 проц. (старшыня Шпільман і парторг Аўгустоўскі).

Гэтыя буйнейшыя арцелі сістэматычна не выконваюць сваіх планаў. Партмасавая работа ў гэтых арцелях зусім

слаба разгорнута, і таму ў выкананні промфінплана не дасягнуты перамогі.

Спачатку я заняўся больш гаспадарчымі пытаннямі ва ўшчэрб партыйна-масавай рабоце. Быў і талкачом і хадайнікам, але на інструкцыйных нарадах пры гаркоме партыі, якія праводзяцца сістэматычна, мне было ўказана на гэты недахоп, і я змяніў напрамак сваёй работы ў бок наладжвання партыйна-масавай работы.

Зараз практыкую наступныя метады работы: перыядычныя інструкцыйныя нарады парткомаў па розных пытаннях партыйнай вучобы, па прапрацоўцы рашэнняў XVII з'езда партыі і пастаноўцы тэхнічнай вучобы, больш энергічнай мабілізацыі мас і разгортвання соцспаборніцтва і ўдарніцтва, пры гэтым правяраю пастаноўку партыйнай вучобы ў школах і на месцы ўказваю на асобныя недахопы. Пасля маіх указанняў парткомы пачалі лепш кіраваць партыйнай вучобай і прапрацоўкай рашэнняў партз'езда. Даклад т. Сталіна распрацаван па большасці промарцелей.

Дрэнна яшчэ абстаіць справа з пастаноўкай тэхнічнай вучобы. Гэта работа разгорнута промарцелямі са значным спазненнем з прычыны адсутнасці належнага кіраўніцтва з баку промсаюзаў і адсутнасці падабраных кіраўнікоў. Звяртаю ўвагу на праверку выканання і прымаю меры к ажыццяўленню дырэктыў гаркома партыі; інструктую і гутару з сакратарамі парткомаў, парторгаў, як лепш правесці тое ці іншае мерапрыемства.

Культурна-масавая работа сярод арцельшчыкаў яшчэ з'яўляецца слабым участкам. Культработнікі пры арцелях, за нязначным выключэннем, не спраўляюцца са сваёй работай, самі яшчэ дрэнна палітычна падрыхтаваны. Зараз мною пастаўлена пытанне дакладна вывучаць іх работу, умацаваць іх склад шляхам падбору моцных, палітычна развітых работнікаў. Зараз у гэтым напрамку праводзіцца работа.

У арцелі „Чырвоны рымарнік" культработнік т. Капусцін (комсамолец) зусім правaліў работу, ён зняты і заменен больш моцным і т. д.

У дні сходаў наведваю партсходы, вывучаю прычыны дрэннай пастаноўкі абвесткі дня партыйных сходаў, на месцы даю ўказанні, як лепш гэтыя партсходы праводзіць. Калі раней дрэнна падрыхтоўвалі абвесткі дня агульных партсходаў (лесдрэўхімсаюз), дык на наступным сходзе гэтыя недахопы ліквідаваліся. Аднак і зараз яшчэ ёсць недысцыплінаванасць: сходы пачынаюцца са спазненнем; ёсць выпадкі няяўкі з прычыны дрэннай апавяшчаемасці.

Пры наведваннях прадпрыемстваў звяртаю асаблівую ўвагу на чыстату ў арцелях, на ахову здароўя арцельшчыкаў. У радзе промарцелей праведзены суботнікі па ачыстцы цэхаў, двароў і г. д. Рэзультаты маюцца вялікія.

Партгрупы яшчэ слаба цікавяцца такімі пытаннямі як наглядная агітацыя, лозунгі і інш., плакаты вісяць падоўгу, устарэлі. Гэта зараз ліквідуецца.

Падпіска на пазыку прайшла па промарцелях з вялікім уздымам. На працягу 48 гадзін падпіска ў большасці арцелей дала перавыкананне месячнага фонду зарплаты. Гэта дасягнута таму, што былі своечасова раздаsuccessfully аблігацыі, умацаваны камсоды і праведзена інструкцыйная нарада з парткомамі. У перыяд хода падпіскі на пазыку наведваў арцелі, а ў некаторых месцах удзельнічаў у правядзенні мітынгаў.

Не гледзячы на першыя крокі перабудовы работы і некаторае паляпшэнне партмасавай работы, трэба яшчэ адзначыць маючыяся яшчэ недахопы, а галоўнае—тое, што паасобныя комуністы яшчэ не атрымалі для сябе ўрокаў з рашэнняў XVII з'езда партыі. Маюць яшчэ месца адсталыя настроі, галоўнае – группарторгі яшчэ не навучыліся, як след, растлумачваць баявыя рашэнні XVII з'езда і ўвязваць іх з пытаннямі арганізацыі мас на барацьбу за выкананне планаў. Яшчэ як след не вывучаюцца члены партыі і не ўцягваюцца ў актыўнае партыйнае жыццё, і таму яны не паказваюць высокіх узораў большэвіцкай дысцыпліны для забеспячэння выканання палітычна-гаспадарчых задач.

На гэты адстаючы ўчастак я і звяртаю сваю ўвагу.

Інструктар гаркома КП(б)Б **Готгельф.**

## ВЫЦЯГНУЦЬ АДСТАЮЧЫ ЎЧАСТАК!

Я працую інструктарам гаркома партыі, абслугоўваю тарфяную і цагельную прамысловасць. Гэта група прамысловасці з года ў год адставала, не выконвала промфінплана як па колькасных, так і асабліва па якасных паказчыках.

З пачатку маёй работы я звярнула ўвагу партарганізацыі на правядзенне падрыхтоўчай работы да сезону, якая-б забяспечыла з пачатку сезона поўнае выкананне плана тарфяной і керамічнай прамысловасцю.

Я распрацавала план работы. **Першы пункт** майго плана быў—глыбокае азнаямленне вывучэння партыйнага і беспартыйнага актыву, каб ведаць, з кім буду працаваць, як расставіць партсілы, якія-б забяспечылі ў сваёй практычнай рабоце поўнае выкананне рашэнняў XVII партз'езда. **Другі пункт** гэта—вывучэнне рашэнняў XVII з'езда ВКП(б) і XV з'езда КП(б)Б усімі партыйнымі арганізацыямі. **Трэці пункт**—гэта праверка і практычная дапамога партарганізацыям у падрыхтоўцы да сезона. Азнаёміўшыся з падрыхтоўкай керамічнай прамысловасці да сезона, я ўстанавіла, што ніводны завод не меў календарнага графіка рамонту агрэгатаў, інтэрнатаў, мною была склікана нарада трохкутнікаў

керамічнай прамысловасці, на якой было абгаворана пытанне аб ходзе рамонту, пасля чаго быў выпрацаван календарны графік рамонту агрэгатаў.

На торфзаводзе № 6 імя т. Дзержынскага, у інтэрнатах была неймаверная гразь, рабочыя жылі там у антысанітарных умовах. Гэты інтэрнат быў рассаднікам заразы. На месцы з партарганізацыяй намецілі тэрмін рамонту інтэрнатаў, перабудавалі комнатную сістэму. Зараз гэтыя інтэрнаты з'яўляюцца прыкладнымі.

На XVII з'ездзе нашай партыі т. Сталін паставіў пытанне аб усямерным развіцці здабычы мясцовага паліва. Адзін з буйных торфзаводаў у БССР—гэта торфзавод „Бальшэвік", які ў гэтым годзе павінен даць 143 тысячы тон добраякаснага торфу для нашага шклогіганта імя Сталіна, ад забеспячэння якога торфам будзе залежаць яго работа. На гэтым заводзе ўпершыню ў СССР асвойваецца новая тэхніка па здабычы торфу: устаноўлен торфкамбайн з 5 камбайнаў.

Задача гэтай партарганізацыі заключаецца ў тым, каб не фармальна перабудавацца, а па сутнасці—за канкрэтную сапраўдную пастаноўку работы, расстаноўку сваіх партсіл, што забяспечыць поўнае выкананне праграмы.

На гэтым заводзе мы маем партком і 3 партгрупы па ўчастках. Ужо зараз мы маем першы вопыт работы па-новаму гэтай партарганізацыі: напрыклад, на 3-м участку партарганізатар т. Туркін ужо канкрэтна паказвае сваю работу; пры зборцы багера т. Туркін расставіў партыйныя і камсамольскія сілы па зменах, што забяспечыла зборку данага багера раней устаноўленага тэрміна.

Канкрэтнае рэагаванне на месцы з'яўляецца лепшай дапамогай партарганізацыі, гэта асноўны метад маёй работы. Прыехаўшы на торфзавод „Бальшэвік" і ўбачыўшы, што на прыгараднай гаспадарцы сеюць ячмень уручную, я тут-жа заўважыла гэта, і тут-жа партком склікаў нараду, на якой прынялі меры для разгортвання сяўбы і вызначылі канкрэтныя мерапрыемствы, якія-б забяспечылі скончэнне сяўбы зернавых культур, бульбы, гародніны (буракі, морква) да 1 мая.

На клінкерным заводзе азнаёміўшыся з пастаноўкай работы грамадскага харчавання я павінна была прызнаць, што яно арганізавана вельмі дрэнна. Я абгаварыла гэтае пытанне з парторгам, дырэктарам, фабкомам і яны даспалі срокі для паляпшэння грамадскага харчавання.

На цагельным заводзе № 5 прапускная здольнасць сталоўкі была нязначная, на што была звернута ўвага партарганізацыі; зараз-жа перабудавалі сталоўку, і цяпер яна цалкам задавальняе патрабаванні рабочых.

На торфзаводзе „Большэвік" я заўважыла, што капуста нядобраякасная. Санурач па маёй ініцыятыве праверыў яе якасць і канстатаваў, што яе больш для яды нельга скарыстоўваць.

На прыгараднай гаспадарцы керамікаў сяўба бульбы шла марудна. Склікала я трохкутнік, з якім распрацавала календарны графік сяўбы, які-б забяспечыў скончэнне сяўбы к 1 мая.

Было-б зусім няверна, калі-б я лічыла, што ў сваёй рабоце я не мела недахопаў. Напрыклад, на торфзаводзе „Большэвік" няпоўнасцю падрыхтаваны да сезона; 6 новых інтэрнатаў яшчэ не пабудаваны, яшчэ слаба разгорнута з новымі рабочымі масавая работа.

Задача далейшай маёй работы заключаецца ў тым, каб аказаць канкрэтную дапамогу партарганізацыям у вывучэнні усімі комуністамі і беспартыйным актывам рашэнняў XVII з'езда ВКП(б) і XV з'езда КП(б)Б, асваенні тэхнікі гэтай вытворчасці, каб забяспечыць авангардную, арганізатарскую ролю комуністаў у спаборніцтве, што з'явіцца залогам паспяховага выканання праграмы па здабычы торфу і цэглы па нашаму раёну.

За ўсё гэта я буду змагацца.

Інструктар гаркома КП(б)Б
Аронава.

---

„Некаторыя думаюць, што дастаткова выпрацаваць правільную лінію партыі, правазгласіць яе, каб усе пачулі, в класці яе ў выглядзе агульных тэзісаў і рэзалюцый і прагаласаваць яе аднагалосна, каб перамога прышла сама сабой, так сказаць, самацёкам. Гэта, вядома, няверна. Гэта вялікае заблуджэнне. Так могуць думаць толькі непаправімыя бюракраты і канцылярысты. На самой справе, гэтыя поспехі і перамогі былі атрыманы не ў парадку самацёка, а ў парадку бязлітаснай барацьбы за правядзенне лініі партыі". (СТАЛІН).

---

# У БАРАЦЬБЕ ЗА РЭАЛІЗАЦЫЮ РАШЭННЯЎ XVII ПАРТЗ'ЕЗДА

## ЧЛЕН ПАРТЫІ Ў ЦЭНТРЫ ПЕРАБУДОВЫ



Машынна-ванны цэх шклозавода імя Сталіна з'яўляецца асноўным рашаючым цэхам завода. Цэх налічвае 370 рабочых. Партыйная праслойка ў цэху нязначная. Пры 5-зменнай рабоце ў некаторых зменах ёсць толькі па 1 камуністу. Гэта ў значнай ступені ўскладняе маю работу, як партарганізатара.

Аднак, новая сістэма работы і пры гэтых умовах дае магчымасць без усякай засядацельскай мітусні, як гэта было раней, пры дапамозе партгруп праводзіць асноўныя дырэктывы партыі.

У цэнтр сваёй работы я стаўлю работу з комуністам,ператварэнне яго ў актыўнага арганізатара, барацьбіта за промфінплан. Толькі таму, што я звяртаю вялікую ўвагу на работу кожнага комуніста, я дасягнуў таго, што такія комуністы, як Крыленка і Памозаў, якія раней былі адарваны ад партыйнага жыцця, нават не наведвалі партыйных сходаў і вучобы, зараз з'яўляюцца актыўнымі праваднікамі рашэнняў 17-га партз'езда, паказваюць прыклады выканання плана.

Комуніст Гумянкоў не змог выканаць пастаўленыя перад ім задачы, і ў рэзультаце брыгада план выканала па метражу на 88 проц. і па цэлых лістах—на 77,7 проц., замест 85. Гэта гаворыць за тое, што не ўсе комуністы ў маім цэху здолелі перабудаваць сваю работу, што з'яўляецца мінусам маёй работы.

Партгрупоргам другой змены з'яўляецца Пачакаева; па сваймуразвіццю яна слабей Ігуменава але работу праводзіць значна лепш. Праграма брыгадай Вайцэхоўскага В., у якой яна працуе, выконваецца. Брыгада ідзе ўперадзе іншых брыгад цэха.

У цэху шырока арганізавана тэхнічная вучоба. Усе рабочыя заканчваюць вывучэнне праграмы па тэхнічнаму мінімуму. Прыступаюць да здачы экзамена к 1 мая. На сёння здалі экзамен: на „вельмі добра"—17, на „добра"—24, і „здавальняюча"—12 чал.

Разгортванне конкурсу паміж брыгадамі, шырокае ўцягненне рабочых цэха ў спаборніцтва забяспечылі выкананне промфінплана. Праграма за красавік перавыканана: па метражу яна выканана на 110,8 проц., адзінарцы — на 52 проц., замест 25 проц. і па цэлых лістах—на 80 проц.

Гэтых перамог мы дасягнулі ў рэзультаце сапраўднай перабудовы партыйнай работы, шырокага разгортвання партыйна-масавай работы ў цэху.

Парторг машынна-ваннага цэха
Альшэўскі.

## ДАПАМОГА ГАРКОМА ПЕРАМОГУ ЗАБЯСПЕЧЫЛА

На падставе рашэнняў 17-га партз'езда і практычных указанняў гаркома партыі парткалектыў завода „Пролетарый" прыступіў да перабудовы партработы на заводзе. Перабудова пачалася не фармальна, а шляхам глыбокага вывучэння кожнага ўчастка, з тым, каб наблізіць партыйную работу непасрэдна да варштата, брыгады.

Да перабудовы мы мелі 7 цэхавых парт'ячэек, 12 партгруп і 5 парторгаў, зараз-жа мы свае сілы расставілі так, каб на кожным участку забяспечыць партыйны ўплыў, каб чотка праводзіць работу; мы арганізавалі 6 пярвічных партарганізацый на чале з парторгам, арганізавалі 11 партгруп.

Калі раней брыгада заліўшчыкаў, якая працуе заўсёды ноччу, зусім не мела партыйнага ўплыву, дык зараз, пры перабудове, перакінулі туды 5 комуністаў, стварылі партгрупу, работа якой паказала добрыя рэзультаты: брак ліцця, які раней дасягаў вялікіх размераў, зараз амаль зусім знішчан.

Раней мы выпусцілі з свайго ўплыву работнікаў заводакіраўніцтва і аддзела забеспячэння. Усе яны раней абслугоўваліся цэхавай партыйнай ячэйкай аддзела механікі, але ячэйка зусім не была звязана з імі і не праводзіла ніякай работы, зараз-жа, калі мы абралі там партарганізатара, работа сярод іх значна палепшылася. Заводскі транспарт у належным парадку, двор ачышчаны ад смецця, работа аддзелаў заводакіраўніцтва праходзіць чотка.

Да перабудовы састаў бюро парткалектыва складаўся з 13 чалавек, і работа бюро была пабудавана так, што пасяджэнні прадаўжаліся 4-5 гадзін, трацілася каштоўны час на непатрэбную засядацельскую мітусню, зараз-жа створана бюро парткома з 5 чалавек, на пасяджэннях якога пытанні абмяркоўваюцца падзелавому.

Гэткая перабудова спрыяла таму, што ўзнялася авангардная роля кожнага комуніста непасрэдна ў цэху, а партарганізатар стаў сапраўдным баявым прадстаўніком партыі ў цэху, арганізатарам мас у

барацьбе за промфінплан. Зараз промфінплан з месяца ў месяц перавыконваецца: у першым квартале было запланавана выпусціць прадукцыі на 1.273 тысячы руб; а выпушчана на 1.389 тысяч руб., што складае 108,6 проц. выканання плана; у трэцім квартале 1933 года кожны рабочы выпускаў на 28 р. 26 к. прадукцыі, у першым-жа квартале— на 34 р. 40 кап., і сабекошт зніжаны ў першым квартале на 7,3 проц.

Дзякуючы перабудове нам удалося палепшыць і якасць прадукцыі; раней брак па ліццю дасягаў 10-15 проц., зараз-жа брак даведзен да 2,8 проц., а ў асобныя дні процант браку даходзіць да 0,5. Комуністы сталі сапраўднымі арганізатарамі мас на барацьбу за зніш-чэнне браку. Парторг ліцейнага цэху Смірноў арганізаваў шэфства старых кадравых рабочых над маладымі: кадравыя рабочыя абучаюць іх тэхніцы фармоўкі, паказваюць як трэба працаваць без браку, і комуністы Кароўкін, Смірноў і Колін працуюць без браку.

Марксісцка-ленінскае выхаванне комуністаў добра наладжана. Па партыйнай асвеце шырока прапрацаваны матэрыялы 17-га з'езда партыі. Увялі здачу палітэкзаменаў (здалі залікі 100 чал.). Большасць комуністаў на практыцы праводзяць прапаганду рашэнняў партз'езда.

Гарадскі камітэт партыі, аказаў вялікую дапамогу ў арганізацыі партыйнай работы на заводзе. Інструктар гаркома партыі Сігналаў вельмі часта бывае ў нас, у цэху, і на месцы практычна дапамагае арганізаваць работу. Дзякуючы вялікай дапамозе гаркома партыі завод выконвае промфінплан.

Да 1 мая мы прыходзім з велізарнейшай перамогай: першымі па Саюзе асвоілі выраб новага віда станка „Калава", які будзе сабран да 1 мая.

Аднак гэта толькі першыя крокі. Ёсць яшчэ рад недахопаў і наша баявая задача— ліквідаваць іх, чым і ажыццёвім рашэнне партыі аб перабудове работы партарганізацыі.

Сакратар парткома завода „Пралетарый" Брандзін.

# БОЛЬШЭВІЦКІ СТЫЛЬ РАБОТЫ

Партыйная ячэйка аўчынашубнага завода налічвала 28 чалавек. Партыйныя групы недастаткова займаліся канкрэтнымі пытаннямі вытворчасці, культмасавай работай, вывучэннем матэрыяльна-бытавых умоў рабочых.

На падставе пастановы 17-га партз'езда і канкрэтных паказанняў гаркома КП(б)Б, дзякуючы дапамозе інструктара гаркома партыі арганізаваны партком узяўся канкрэтна за перабудову партработы.

Мяне абралі парторгам аднаго з вядучых цэхаў (мокры цэх). У састаў маёй партыйнай групы ўваходзяць 8 членаў партыі, 1 кандыдат, 6 комсамольцаў, з ахопам 58 рабочых. Партсілы расстаўлены па паасобных галінах вытворчасці з такім разлікам, каб кожная галіна работы была забяспечана партыйным ядром.

У сувязі з перабудовай ёсць цэлы рад дасягненняў у рабоце нашага цэха. Промфінплан па ўсіх паказальніках за першы квартал выканан на 10 дзён раней. Красавіцкае заданне выканана на 5 дзён раней тэрміна на 113 проц. Таксама палепшылася якасць прадукцыі і ўзнялася прадукцыйнасць працы.

Вось канкрэтны прыклад: член партыі Карасік зрабіў у двух аўчынах брак. Пасля рэагавання партгрупы т. Карасік выправіўся—дае добрую якасць.

Ударнікаў у цэху ёсць 38. Усе комуністы ўдарнікі. Большая частка з іх—Штэйшнайдэр, Карасік, Дурэйка і інш., паказвае самыя лепшыя ўзоры работы.

Тэхвучобай ахоплена 55 чал. Здалі тэхэкзамен на „вельмі добра" і „добра" 8 членаў партыі і 27 беспартыйных рабочых цэха.

Праведзеная палітправерка паказала, што комуністы значна падвысілі свой палітычны ўзровень.

Гэта перабудова дала магчымасць лепш унікаць у штодзённыя запатрабаванні рабочага, а таксама ва ўсе пытанні вытворчасці. Промфінплан выконваўся па ўсіх паказальніках.

Ёсць, аднак, і рад недахопаў: слаба працуе мантажны цэх, машыны рамантуюцца несвоечасова, яшчэ слаба праводзіцца масавая работа; паасобныя комуністы не ўдзяляюць належнай увагі павышэнню свайго палітузроўню: напрыклад Штэйшнайдэр, Харытонаў; слаба працуюць вытворчыя нарады.

Партгрупа спадзяецца, што яна даб'ецца ліквідацыі ўсіх вышэйпаказаных недахопаў і яшчэ больш мабілізуе масы на выкананне і перавыкананне промфінплана.

Группарторг мокрага цэха Дзівакоў.

Пролетарыі ўсіх краін! Умацоўвайце справу пролетарскага інтэрнацыяналізма! Станавіцеся пад сцягі Комуністычнага Інтэрнацыянала. Наперад, да новых баёў і перамог! Няхай жыве сусветная социялістычная рэволюцыя!

(З лозунгаў ЦК ВКП(б)).

# ЖОРСТКАЯ КРЫТЫКА НАШАЙ РАБОТЫ ДАЛА РЭЗУЛЬТАТ



Я працую парторгам саломена-цэлюлознага завода фабрыкі „Герой працы". Усяго 257 рабочых у цэху, з якіх 9 комуністаў. На кожнай змене (а іх усяго 9) работае па аднаму комуністу, які адказвае за работу сваёй змены.

Наш завод на працягу лютага месяца 1933 г. быў у глыбокім прарыве. Гаспадарчае і тэхнічнае кіраўніцтва фабрыкі было глыбока ўпэўнена, што план у 32 тоны саломенай цэлюлозы ў суткі нерэальны, і яно арыентавала рабочых і ІТР на 18 тон, што было санкцыянавана тэхнічнай нарадай. Потым саломена-цэлюлозны завод павінен быў спыніцца, і таму пераключыліся на работу на старым заводзе з выпрацоўкай 12 тон цэлюлозы.

Лічачы такое мерапрыемства дырэкцыі няправільным, партыйная група, абмеркавала гэта пытанне, перанесла яго на пасяджэнне бюро парткалектыва. На партыйным сходзе, заслухаўшы даклад Скульскага (загадчыка аддзелам снабжэння фабрыкі), вырашылі рад пытанняў, звязаных з забеспячэннем хімікатамі, саломай, нажамі для саламарэзкі, пры гэтым пастанавілі комуністаў завода паслаць на самыя вузкія месцы: Краўцова накіравалі за нажамі, Вядзернікава — на саломены склад.

Дзякуючы праведзенай рабоце зараз завод пачынае даваць 30-32-35 тон саломенай цэлюлозы замест „узаконеных" 18 тон.

У чым справа? Што змянілася ў параўнанні з тым часам, калі мы збіраліся „кансерваваць" завод? Змянілася вельмі мала. Пасля перабудовы партработы мы расставілі сілы комуністаў так, каб ахапіць сваім уплывам усе звенні і ўсіх рабочых завода, патрабавалі больш адказнасці ад кожнага комуніста за бесперапынную работу яго змены, устанавілі штодзённы кантроль за выкананнем брыгадамі планаў і ў прыватнасці кожным комуністам і комсамольцам. Комуніст Краўцоў на старым заводзе даваў па 3—4 катлы ў змену, пасля-ж таго, як устанавілі нагляд за яго работай, якасць работы Краўцова паступова паляпшалася і зараз усю другую дэкаду красавіка ён дае па 6 катлоў за змену.

Як сістэматычны метад, мы ўвялі штодзённа зменна-сустрэчнае планаванне. Раз у пяцідзёнку праводзім 20-мінутныя нарады брыгадзіраў і лепшых ударнікаў завода, падводзім вынікі работы за пяцідзёнку. Зараз брыгада комуніста Драбадзёнава (каустызацыя) за 20 дзён красавіка выканала план на 125 проц. Драбадзёнаў „отличник" і лепш за ўсіх кіруе сваёй брыгадай. Брыгада Каржова (каустызацыя) выканала свой план на 109 проц., брыгада Малышава (рэгенерацыя)—на 110 проц.

З падрыхтоўкай да першамайскіх свят мы разгарнулі барацьбу за датэрміновае выкананне плана красавіка м-ца— к 29 красавіка. Ва ўсёй нашай рабоце вялікую ролю адыгрывалі зменныя штодзёнкі, якія шырока асвятлялі ход спаборніцтва на заводзе, выкрывалі лодыраў, сімулянтаў, бракаробаў.

Перабудова пачалася ў апошнія дні ў сувязі са зменай кіраўніцтва парткома і жорсткай крытыкі нашай работы. Я, як парторг, крэпка заняўся дыферэнцыяванай работай з рабочымі: прапрацоўваў даклад тав. Сталіна, праводзіў чыткі газет, гутаркі аб індывідуальных гародах і разам з партгрупай правёў 11 гутарак на-даму лепшых ударнікаў.

Да рабочага Кустава прымацавалі комсамольца Аўраменка, да ўдарніка Мальцава В.—комуніста Вядзернікава, ударніку Сідарокаву я дапамагаю ў партыйнай вучобе. Гэтыя людзі ўжо здалі палітэкзамен на „вельмі добра".

Наведваючы рабочыя кватэры, мы выявілі асобных рабочых, матэрыяльнае становішча якіх дрэннае. Дзесяці сем'ям фабком, парт. і профарганізацыі дапамаглі набыць насенне, бульбу, быў прынят на работу ўтрыманец Цімошкіна. У выніку ўсёй праведзенай работы зараз вакол партгрупы скалочан беспартыйны рабочы актыў у колькасці 28 чал., з іх 2 падалі заявы аб прыёме іх у спачуваючыя.

Аднак якасным паказальнікам, чыстаце ў цэху і вакол завода, пастаноўцы нагляднай агітацыі, працоўнай дысцыпліне трэба яшчэ больш удзяляць увагі.

Перада мною паўстае задача: яшчэ больш дыферэнцыяваць работу з рабочымі, згрупаваць усе лепшыя, актыўныя элементы вакол партгрупы.

Парторг СЦЗ
Бобрыкаў

---

Рабочыя і работніцы, інжынеры і тэхнікі-ўдарнікі! Змагайцеся супроць разгільдзяеў і бракаробаў! Да адказнасці парушальнікаў законаў совецкай улады аб якасці і камплектнасці прадукцыі! (З лозунгаў ЦК ВКП(б)).

# ЯК ЗАБЯСПЕЧЫЛІ ПЕРАМОГУ

На 17-м партз'ездзе т. Сталін аб перабудове партработы сказаў: „Пасля таго, як дана правільная палітычная лінія, арганізацыйная работа рашае ўсё, у тым ліку і лёс самой палітычнай лініі, і яе выкананне альбо яе правал". З гэтага ўказання т. Сталіна відна, наколькі важна перабудова партыйнай работы.

На камбінаце імя Гікало перабудова ў асноўным скончана, і зараз можна падвесці некаторыя вынікі, выходзячы з работы партарганізацыі лесацэха.

З чаго я пачаў перабудову работы, як парторг?

Раней за ўсё з азнаямлення комуністаў і беспартыйных рабочых з рашэннямі з'езда, падрабязнейшай прапрацоўкі дакладаў тт. Сталіна і Кагановіча. У прапрацоўку матэрыялаў 17-га партз'езда былі ўцягнуты ўсе рабочыя цэха (400 чал.) шляхам прапрацоўкі дакладаў у час снедання і пасля работы.

Асаблівую ўвагу я павінен быў звярнуць на наладжанне партыйнай вучобы, таму што камісія па чыстцы адзначыла, што комуністы лесацэха з'яўляюцца самымі адсталымі па палітразвіццю. Павышэння актыўнасці ў палітвучобе я дабіўся дзякуючы разгортванню масавай работы. Я даваў заданні партгрупоргам, якія павінны кожны раз паведамляць комуністаў і беспартыйных рабочых аб дні вучобы. Самі парторгі хадзілі правяраць наведванне заняткаў у школе.

Калі раней вучобу зрывалі Бартнеўскі і Ліхута, дык зараз яны наведваюць школу. Здача палітмінімума паказала на значны рост тэарэтычнага ўзроўню комуністаў. На „отлично" здалі Равуцкі, Раманенка, Портэр Е., Дудукалаў, Белкін М. і інш.

## Комуністы ў авангардзе барацьбы за промфінплан

За час перабудовы я звярнуў асаблівую ўвагу на павышэнне кіруючай, арганізатарскай ролі кожнага комуніста, усклаў вялікую адказнасць на комуністаў за канкрэтны ўчастак сваёй работы. Для гэтага я расставіў людзей на вытворчых участках, звярнуўшы пры гэтым асаблівую ўвагу на адстаючыя ўчасткі.

Я быў перакінут у якасці парторга на лесацэх у сакавіку 1934 г. Промфінплан у сакавіку быў выканан на 72 проц., не лепш было і ў лютым. Адразу пачаў я вывучаць прычыны прарыву. Галоўнай прычынай аказалася дрэнная работа берагу. Тут-жа, на месцы, без усякіх пасяджэнняў і размоў я высветліў, што сыравіна не падавалася к лесарэзкам, з-за чаго ў сакавіку было 52 гадзіны прастою і іншых прастояў з прычыны рамонту і інш. 413 гадз.



Тав. Р. КАГАН,
парторг меблевай фабрыкі.

На беразе была дрэнная працоўная дысцыпліна. Рабочыя Даўгалаў, Грамыка Л., Грамыка С., Рагаўцоў С., Грушчанка ўшчыльнялі рабочы дзень на 78 проц. Комуністы Портэр і Грамыка І., якія кіруюць работай берагу, у сувязі з сваім неканкрэтным кіраўніцтвам не здолелі арганізаваць работу берагу. Для знішчэння недахопаў гэтыя комуністы былі расстаўлены па зменах, і на іх была ўскладзена адказнасць за сваю змену.

Вывучыўшы сумесна з імі прычыны дрэннай работы берагу, мы правялі сход рабочых, на якім ускрылі прычыны дрэннай работы, арганізавал 4 брыгады, якія спаборнічаюць паміж сабой. Праводзяцца 10-мінутныя вытворчыя нарады. Партгрупорг Грамыка штодзённа інфармуе аб рабоце берагу. Зараз работа берагу наладжана, і ён не зрывае работы лесацэха.

У лесацэху сярод змен Белкіна, Саракалетава і Папсуева разгорнута соцспаборніцтва на лепшую змену, брыгаду.

Тэхнарук Шапіра не адчуваў адказнасці за сваю работу, ад чаго атрымліваўся брак: пускалі на большы абрэз, на тарцоўках атрымліваецца дрэнны тарэц і інш. Зараз гэта знішчаецца. Над бракаробамі быў праведзен вытворча-таварыскі суд.

Лепшымі ўдарнымі брыгадамі ў лесацэху з'яўляюцца брыгада Табалы П.—сістэматычна выконвае промфінплан на 123 проц., комуніста Фейгіна—на 110 проц. і Шулькіна—на 115 проц.

## Тэхвучоба вырашае поспех

У сакавіку было многа браку—да 30 проц. Галоўнай прычынай браку з'яўлялася дрэннае засваенне тэхнікі. Неналаджванне тэхнічных заняткаў матывавалася адсутнасцю кіраўнікоў, а калі канкрэтна ўзяліся за справу, знайшліся кіраўнікі цэху: Барбас, Ямрам, Персцін, Масюкевіч.

На 25 красавіка здалі тэхэкзамен 90 чал., з іх „на вельмі добра"—40 чал. Комуністы Фейгін, Славін, Равуцкі, Макарэнка і Перынг і комсамольцы Табала П., Лібераў, Табала Ф., Сярэбранікаў, Асіпенка здалі тэхэкзамен на „вельмі добра". У выніку аўладання тэхнікай на складзе добра робіцца ўкладка штабеляў, ад чаго знішчана сінява і растрэскванне.

## Займаемся вывучэннем бытавых умоў

Вывучэнне бытавых умоў рабочых была ў цэнтры ўвагі

штодзённай работы; асабліва звернута была ўвага на паляпшэнне бытавых умоў ударнікаў. К 1 мая адрамантавана кватэра ўдарніка ізотаўца Табалы. Усе рабочыя лесацэха пераведзены ў асобныя пакоі ў інтэрнаце, і ім выданы ўжо коўдры, простыні і навалачкі.

Кадравыя рабочыя атрымалі індывідуальныя гародныя ўчасткі, якія ўжо ўзораны, гной вывезен на гароды і насеннем забяспечаны.

## Палепшыліся кіраўніцтва і кантроль выканання

Пасля перабудовы значна палепшыліся праверка выканання і канкрэтнае кіраўніцтва. Калі раней пытанні вырашаліся на пасяджэннях, дык зараз пытанні вырашаюцца на месцы, прадастаўлена вялікая самастойнасць партгрупам.

Узмацнілася аперацыйнае кіраўніцтва парткома. Штодэкадна я атрымоўваю аперацыйны план-заданне. Сакратар парткома т. Бас штодзённа бывае ў цэху і канкрэтна кіруе работай.

У выніку перабудовы работы лесацэх вышаў перадавым па ўсяму камбінату па выкананню промфінплана. За 24 дні красавіка промфінплан выканан на 114 проц. Ударнай работай у красавіку пакрыт сакавіцкі прарыў.

Гэтыя дасягненні мы замацуем, і лесацэх будзе перадавым цэхам камбіната.

Парторг лесацэха камбіната імя Гікало
Л. Злапін



**УДАРНАЯ БРЫГАДА ДРУГОГА КАЛЁСНАГА ЦЭХА.**
Брыгада камбіната імя Гікало сістэматычна перавыконвае план. Брыгадзір—комсамолец Чрэшыс.

# ДОБРЫ ПРЫКЛАД РАБОТЫ

Партарганізацыя калгаса „Чырвоны хлебароб“ налічвае 3 членаў і 5 кандыдатаў. Партсілы расстаўлены так, што асноўныя вядучыя ўчасткі забяспечаны партыйным уплывам. Тав. Бажкоў менш засядае, ён шмат часу аддае практычнай рабоце і праверцы выканання даваемых кожнаму комуністу дырэктыў і гэтага патрабуе ад астатніх кіраўнікоў.

Шмат увагі ён удзяляе ідэйна-палітычнаму ўзбраенню комуністаў і комсамольцаў і не толькі ў школе, але і на практычнай рабоце. Партвучоба цесна ўвязваецца з баявымі задачамі дня. У звычайнай гутарцы з комуністамі тав. Бажкоў любое практычнае пытанне тэарэтычна абгрунтоўвае.

Пры абмеркаванні пытання аб адказнасці кожнага за сваю работу ў святле новага статута партыі, тав. Бажкоў, прыводзіў факты з калгаснага жыцця, якімі даводзіў, к чаму прыводзяць безадказныя адносіны калгаснікаў да сваёй работы.

Ад кожнага комуніста, ад кожнага кіраўніка ў калгасе тав. Бажкоў патрабуе планавання работы. Гутарку з брыгадзірам другой палявой брыгады тав. Нетылькіным аб ходзе работ, ён закончыў указаннем тав. Сталіна, што „кіраваць—значыць прадбачыць“. Тав. Бажкоў сам паказвае прыклад у гэтым. Па яго ініцыятыве, яшчэ задоўга да сяўбы, было ўстаноўлена сталае дзяжурства па нагляду за кармленнем і паеннем конскага пагалоўя, вылучаліся розныя камісіі—па праверцы рамонту інвентара, захаванасці харчовага фонда сталоўкі і гатоўнасці ясель на час сяўбы, праводзіўся медагляд дзяцей ясельнага ўзросту і т. д., што забяспечыла гатоўнасць калгаса да выхаду ў поле.

Добра наладжана працдысцыпліна. Масавая работа парторга разгортваецца вакол ушчыльнення рабочага дня брыгады. І рэзультаты ў наяўнасці. Работа пачынаецца а 6 гадзіны раніцы. На стайні, жыва і бадзёра ідзе гутарка аб рабоце на полі. У брыгадзе Хаўроціна Рыгора ўсё 34 коні сярэдняй і вышэйшай укормленасці, таксама і ў іншых брыгадах. Без усякай мітусні расстаўляецца рабочая сіла. Рэгламент запрагання коняй вылічваецца мінутамі. Збруя падагнана да кожнага каня і знаходзіцца ў поўнай спраўнасці, сельскагаспадарчы інвентар чысты, без іржы, ён ачышчаецца неадкладна пасля работы. У 7 гадзін раніцы на канюшні цішыня, усе ўжо на полі.

На полі ідзе барацьба за тэмпы і якасць сяўбы, разгортваецца спаборніцтва паміж брыгадамі, звеннямі і паасобнымі калгаснікамі. Усе аратыя выконваюць нормы ворыва. Уперадзе ідуць: Караткін Пятро, Прахарэнка, Хамуцін, Калугін, комсамолец Лебедзеў (першая брыгада), Мажанаў Кузьма, Чайкоў Васіль (другая брыгада) і інш., якія замест нормы 0,50 га аруць па 0,55—0,58 га за дзень. Якасць добрая, яе штодзённа правяраюць інспектары па якасці: Прахарэнка. Хведар, Калугін Нікіфар і інш. Яны нядаўна зрабілі заўвагу Чайхову Пятру і Катлярову Дораху за зробленыя імі агрэхі. 14 красавіка забракавана ворыва трактарыста Кікаца на плошчы ў адзін га, аб чым складзен акт.

Таксама сурова сочаць за выкананнем на сеялках норм высева: аўса, ячменю і інш. Недарэмна прайшла зімняя агратэхвучоба: у гэтым усе пераканаліся на здачы тэхэкзамена. На „добра“ адказалі: брыгадзір другой брыгады, комуніст Нятылькін, комсамолец з першай брыгады Лебедзеў Пётр, брыгадзір першай брыгады Хаўроцін Рыгор, кандыдат партыі Гракаў (каваль, ён-жа рэдактар калгаснай газеты), Прахарэнка Хведар, Кастусёва Насця і інш.

Ёсць калгаснікі, якія сваімі паводзінамі разлагаюць працдысцыпліну. З імі вядзецца бязлітасная барацьба. 15 красавіка Катляроў Дорах, Антончанка Павел з уноў уступіўшым калгаснікам Сляпцовым Яўхімам пакінулі поле і паехалі дамоў за 2 гадзіны раней, яны не падпарадкаваліся старшыні калгаса тав. Плескаму, які загадаў ім ісці назад на поле. На гэтае з'явішча неадкладна рэагавалі. Перад пачаткам адзінага партпалітдня, пры шырокім удзеле калгаснікаў і аднаасобнікаў, адбылося пасяджэнне праўлення калгаса, якое пастанавіла аштрафаваць прагульшчыкаў на 5 працадзён кожнага і папярэдзіла новага калгасніка, каб больш не паўтараліся такія з'явішчы.

Штодзённа пасля абеда, каля сталоўкі або каля канюшні, адбываюцца маленькія вытворчыя нарады або гучныя чыткі газет. Наладжваецца выпуск брыгадных насценгазет. Штодзённа пасля работы абходзяць палі і ўважліва агледаюць участкі, каб ведаць, што ўключыць на заўтра ў брыгадны графік і каго з брыгад пераключыць на іншыя работы.

Ведаючы, што першая брыгада ідзе ўперадзе другой (на 15 красавіка ўзарана ў першай—32 га, другой—23, засеяна ў першай—28, другой—10), да яе прымацаван член партыі тав. Дарожкін. Стыль работы парторга Бажкова гэта—канкрэтнасць, аператыўнасць у рабоце. Вось прыклад: некаторыя сямейныя калгасніцы не выходзяць на работу і не прыносяць сваіх дзяцей у яслі. Замест выкліка іх на сход тав. Бажкоў арганізоўвае наведванне іх кватэр, знаёміцца з іх бытавымі ўмовамі і ў гутарцы з кажнай паасобку прыводзіць прыклады калгасніцы Гладкай Еўдакіі, сямейнай кал-цы Самонавай Хрысціны, якія заўвесь час не маюць ніводнага прагула.

Так работаць, як тав. Бажкоў, можа кожны парторг, патрэбна толькі жаданне. **Кантар.**

# ФАРМАЛЬНАЯ ПЕРАБУДОВА

Партыйная арг-цыя Дзятлавіцкага сельсовета перабудавалася, так па крайняй меры заяўляе парторг тэрытарыяльнай партгрупы тав. Гарошка. А тлумачыць гэта ён тым, што зараз замест партыйнай ячэйкі на тэрыторыі Дзятлавіцкага сельсовета работае тры партгрупы. Праўда, арганізацыяй гэтых партгруп, па словах Гарошка, ніхто не займаўся, яны створаны механічна. Былы сакратар парт'ячэйкі Ягудкін выехаў. З часу ад'езда Ягудкіна партыйных сходаў ніхто не праводзіць, бо няма каму гэтым займацца.

— Нам няма чаго збірацца,— заяўляе парторг Бецін, ён-жа старшыня калгаса „Чырвоны партызан".—Мы заўсёды разам, а што датычыцца прапрацоўкі паасобных пытанняў і пастаноў гаркома партыі, дык кожны з нас чытае газету, а гэта значыць, што кожны з нас ведае ўсе пастановы,—так разважае Бецін, так разважае і сакратар калгаснай комсамольскай ячэйкі тав. Дзюба. Пасля такіх разважанняў і запэўненняў небескарысна паглядзець, як-жа Дзюба і Бецін ажыццяўляюць рашэнні гаркома партыі ў галіне разгортвання спаборніцтва калгасных і жывёлагадоўчых брыгад і перабудовы сістэмы работы і аплаты працы ў жывёлагадоўчых фермах.

У калгасе „Чырвоны партызан" ёсць чатыры паляводчых брыгады. Людзі, якія ўзначальваюць гэтыя брыгады, стаяць на сваім месцы, яны адданы справе, але працуюць яны не арганізавана, паміж імі не разгорнута соцыялістычнае спаборніцтва. Праўда, сакратар комсамольскай ячэйкі, ён-жа і хатнік, запэўняе, што зварот Міласць-Куракінскай МТС і пастанова гаркома партыі аб соцыялістычным спаборніцтве калгасных брыгад яны распрацавалі, але на справе гэтага не відаць.

Нават ініцыятыва брыгады № 4, якая выклікала на спаборніцтва першую брыгаду, да гэтага часу не ажыццяўлёна. Вызначаныя ў дагаворы пункты на лепшае і хутчэйшае правядзенне веснавой сяўбы не аформлены, выклік на сходзе калгаснікаў 1-й брыгады не абгавораны. Добрая ініцыятыва брыгады асталася без вынікаў.

Не арганізаваны і абмен вопытам работы брыгадзіраў. Дапамога лепшых брыгадзіраў адстаючым не арганізавана. Так, брыгадзір Сімковіч Цімох мае 4-гадовы стаж, ён добра арганізаваў работы ў сваёй брыгадзе. Не можа гэтым пахваліцца брыгадзір другой брыгады Ерыкаў Хвядос. Ён брыгадзірам працуе першы год, а таму ў яго ёсць шмат непаладкаў, дапамогі-ж Ерыкаву ніхто не аказвае. Сяўба яго брыгадай вытвараецца дрэнна, дысцыпліна ў брыгадзе адсутнічае, калгаснікі выходзяць на работу калі каму ўздумаецца.

Партгрупа і комсамольская ячэйка не паднялі брыгадзіра на адпаведную вышыню, яны недаацанілі значэння брыгады ў выкананні плана веснавой сяўбы. Вось прычыны таго, што веснавая сяўба ў гэтым калгасе ідзе надзвычайна маруднымі тэмпамі.

Партгрупа і комсамольская ячэйка на арганізуюць вакол сябе актыва, не арганізуюць масу калгаснікаў на хутчэйшае ажыццяўленне дырэктыў партыі.

Калі ячэйкай і арганізавана была прапрацоўка якога-колечы матэрыяла, дык камуністы, пачынаючы з старшыні калгаса і канчаючы загадчыкам гаспадаркі Клімавым Фролам, лічаць патрэбным гаварыць аб пастановах партыі наогул.

Ячэйкай прапрацоўвалася рашэнне гаркома аб жывёлагадоўлі. Канкрэтнае ўказанне гаркома аб стымуляванні лепшых даярак за добры догляд за маладняком астаецца не выкананым. Ні партгрупа, ні комсамольская ячэйка нічога не зрабілі для таго, каб ператварыць гэтае паказанне ў жыццё, а на МТФ, як і раней,—абязлічка ў доглядзе, масавы адыход маладняка.

З 58 кароў да апошняга часу пакрыта толькі тры. Кармавы фонд разбазарваецца. Там, як раней, кормяць і даглядаюць кароў скотнікі, а дояць іх і пояць цялят даяркі. Ні загадчык фермы, комсамолец Сімковіч, ні старшыня калгаса Бецін не паклапаціліся, каб перабудаваць работу фермы. Ніхто з даглядальнікаў не ведае норм выдачы кармоў маладняку, ніхто не ведае правілаў догляду за цялятамі.

Нядзіўна пасля гэтага, што калгас „Чырвоны партызан" яшчэ і зараз знаходзіцца ў глыбокім прарыве па выкананню плана веснавой сяўбы і па жывёлагадоўлі.

Партгрупа і сакратар комсамольскай ячэйкі павінны з гэтага зрабіць належныя вывады. Іх задача заключаецца не толькі ў тым, каб прапрацоўваць рашэнні, але задача кожнага комуніста, кожнага комсамольца перш за ўсё заключаецца ў тым, каб практычна ажыццяўляць гэтыя рашэнні, мабілізаваць вакол іх усю масу калгаснікаў, толькі пры гэтых умовах можна дабіцца поўнага і паспяховага выканання рашэнняў. М.

---

„Справу жывёлагадоўлі павінны ўзяць у свае рукі ўся партыя, усе нашы работнікі, партыйныя і беспартыйныя, бо задача жывёлагадоўлі з'яўляецца цяпер такой-жа першачарговай задачай, якой была ўчора задача зерневая" (СТАЛІН).

# АБ РАБОЦЕ З СПАЧУВАЮЧЫМІ

„Група спачуваючых—арганізацыя не партыйная, але шчыльна прымыкаючая да партыі. Гэта новы прывадны рамень ад партыі, як авангарда пролетарыята, да шырокіх мас працоўных".

Так вызначаны задачы груп спачуваючых XVII партыйным з'ездам і перадавым „Праўды" ад 26 красавіка 1934 года.

Гэта з усёй вастратой патрабавала ад пярвічных партыйных арганізацый выяўлення лепшых беспартыйных рабочых-ударнікаў, арганізацыі іх і прыцягнення да работы ў партыйнай арганізацыі.

Аднак, пасля рашэнняў XVII з'езда партыі прайшло амаль тры месяцы. Не гледзячы на ўказанні гарадскога камітэта партыі аб разгортванні работы сярод спачуваючых (ліст ГК КП(б)Б, № 2), гэтае важнейшае рашэнне з'езда не знайшло дастатковага практычнага праламлення ў штодзённай рабоце нашых парткомаў. Такія калектывы, як „Пролетарыя", Палесдруку, Добруша, шклозавода, замест індывідуальнай штодзённай работы з спачуваючымі (пераведзенымі камісіяй па чыстцы з членаў і кандыдатаў за слабую палітычную падрыхтоўку), аставілі спачуваючых без усялякага партыйнага ўплыву; не абвяшчалі іх аб сходах, не давалі нагрузак, не сачылі за наведваннем школ і гэтым садзейнічалі адрыву іх ад партжыцця, у выніку чаго на заводзе „Пролетарый" з 6 спачуваючых асталося 2, а на шклозаводзе зусім няма ўліку іх.

Партком Сельмаша зрабіў добрае пачынанне, прымацаваўшы да спачуваючых падрыхтаваных старых комуністаў, але бяда ў тым, што ён не праверыў на працягу 4 месяцаў іх работы, і гэтым самым ператварыў гэтае каштоўнае мерапрыемства ў фармалізм, бо ні адзін з прымацаваных зусім не займаўся даручанай яму работай. Так пастаўлена работа з пераведзенымі ў спачуваючыя.

Да арганізацыі новых груп спачуваючых большасць калектываў не прыступіла. Толькі паасобныя цэхпарторгі прыступілі да выяўлення людзей. Па Сельмашу (ліцейны цэх) выяўлена 12 чал., па СЦЗ Добрушскай фабрыкі—28, з іх 2 падалі заявы ў спачуваючыя; па наборнаму цэху Палесдруку—4 чал., аднак з гэтымі выяўленымі—лепшымі рабочымі работы ніякай не вядзецца.

Буйнейшыя пролетарскія арганізацыі: Данбаса, Масквы, Ленінграда, правільнай расстаноўкай партыйных сіл, прымацаваннем комуністаў да груп рабочых (па 5—15 чал.) дабіліся выяўлення і прыцягнення да работы партыйнай арганізацыі лепшай часткі свайго рабочага калектыва, ведучы сістэматычную работу па іх выхаванню.

Наша задача,—узброіўшыся рашэннямі XVII з'езда і вопытам перадавых парторганізацый, выявіць на прадпрыемствах лепшых рабочых-ударнікаў, арганізаваць іх у групы спачуваючых, наладзіць сістэматычную работу па павышэнню іх палітычнага ўзроўню, вывучэнню статута і праграмы партыі, даючы ім нагрузкі і сістэматычна правяраючы іх выкананне, гэтым самым забяспечыць палітычна-падрыхтаванае, ідэалагічна-выпрацаванае папаўненне нашай партыі. Трэба, нарэшце, зразумець, што без цеснай паўсядзённай сувязі партыйнай арганізацыі з актывам рабочых не можа быць сапраўднай масавай работы. Групы спачуваючых, якія павінны састаяць з лепшых ударнікаў, з рабочага касцяка, пры правільнай рабоце з імі з'яўляцца аграмадным правадніком усіх тых задач, за якія змагаецца наша партыя.

У нашых умовах, калі на радзе прадпрыемстваў партыйная праслойка і без таго малая, сістэматычная і правільная работа з групамі спачуваючых, выкананне ўказанняў XVII з'езда партыі і перадавога „Праўды" ад 26 красавіка ўзмоцняць нашу работу з рабочым актывам і разам з тым усю нашу масавую работу.

Партарганізатар у цэху, брыгадзе і змене павінен быць асноўным праваднікам і арганізатарам гэтай работы. Заводскім парткамітэтам пара ўжо зразумець іх абавязкі ў гэтым пытанні, вынікаючыя з рашэнняў XVII з'езда партыі, выкананне якіх па зместу, а не па форме, з'яўляецца прамым абавязкам усіх парткамітэтаў і ўсіх членаў партыі.

С.

## Перадавік соцыялістычнага спаборніцтва



**Казімір Казіміравіч Казлоўскі**—старэйшы ўдарнік завода імя Ланцуцкага.

«Спаборніцтва прабуджае ў людзях таланты»,—гаворыць ён, і ў гэтых словах яго жыццёвая праўда. Да рэволюцыі майстар цэха **Русель** скарыстоўваў Казлоўскага дзякуючы яго фізічнай сіле замест пад'ёмнага крана. Там, дзе трэба было паставіць восем чалавек, Казлоўскі адзін паднімаў дэталі на пліту. Ён насіў на плячах цэлыя дышлы для паравозаў. У майстра Руселя Казлоўскі быў машынай.

Зараз, акружаны любоўю і гонарам героя працы, Казлоўскі стаў вынаходнікам і рацыяналізатарам. Ён унёс многа паляпшэнняў у работу электрастанцыі завода, і дзякуючы яго клопатам цэхі завода імя Ланцуцкага ніколі не мелі ні мінуты прастою.

# АБ ПРАПРАЦОЎЦЫ РАШЭННЯЎ XVII З'ЕЗДА ПАРТЫІ

Тав. Сталін у сваім гістарычным дакладзе на 17 з'ездзе партыі сказаў: „нашы задачы ў галіне ідэйна - палітычнай работы:

1) узняць тэарэтычны ўзровень партыі на належную вышыню;

2) узмацніць ідэалагічную работу ва ўсіх звеннях партыі;

3) весці няўстанную прапаганду ленінізма ў радах партыі;

4) выхоўваць партарганізацыі і акружаючы іх беспартыйны актыў у духу ленінскага інтэрнацыяналізма;

5) не замазваць, а крытыкаваць смела адхіленні некаторых таварышоў ад марксізма-ленінізма;

6) сістэматычна разаблачаць ідэалогію і рэшткі ідэалогіі варожых ленінізму плыняў".

Вось большэвіцкая праграма барацьбы за аўладанне марксізмам-ленінізмам, за аўладанне і сістэматычнае правядзенне ў жыццё рашэнняў 17-га з'езда ВКП(б), гістарычных паказанняў тав. Сталіна.

Па Гомельшчыне разгарнулася прапрацоўка рашэнняў 17-га з'езда партыі. Такія прадпрыемствы, як „Пралетарый", Сельмаш, Палесдрук, „Праца" і іншыя, паказваюць прыклад, як трэба праводзіць гэтую важнейшую справу, але ў нас ёсць яшчэ рад прадпрыемстваў, дзе партхамітэты ганебна забываюць гэтыя рашэнні партыі, ігнаруюць правядзенне важнейшага мерапрыемства партыі, праводзяць яго фармальна. Дрэнна пастаўлена гэтая работа на шклозаводзе, у жылсаюзе і інш.

На водным транспарце па асобных групах рабочых (грузчыкі) зусім яшчэ не прыступілі да прапрацоўкі рашэнняў з'езда. Парторг басейна тав. Шпак лічыць, што гэта для яго работа не абавязковая. Мы маем факты апашлення дырэктыў партыі ў галіне прапрацоўкі рашэнняў з'езда і даклада тав. Сталіна. У жылсаюзе (сакратар парткома тав. Левіт) увялі зуброжку. Кандыдат партыі тав. Віцькін зазубрываў асобныя ўстаноўкі 17-га партз'езда па спецыяльнаму пытальніку.

Зусім дрэнна ідзе ў нас прапрацоўка на вёсцы, асабліва сярод працоўных аднаасобнікаў. Надалей цярпець такое становішча нельга. ЦК ВКП(б), ЦК КП(б)Б і гарком КП(б)Б рашуча ўказалі, як трэба зараз арганізаваць прапрацоўку рашэнняў з'езда і дакладаў тт. Сталіна і Кагановіча. За выкананне гэтых указанняў трэба зараз і змагацца. Асновай работы ў гэтай галіне павінна быць глыбокая ўсебаковая прапрацоўка, даведзеная да шырокіх мас, цесна звязаная з практычнай работай кожнага комуніста, комсамольца, беспартыйнага рабочага на сваім участку. Ні ў якім разе нельга дапускаць фармальнага падыходу да гэтай справы, выкарчоўваючы з практыкі зуброжку, запытальнікі і т. д.

Трэба знішчыць саноўнабарскія адносіны сакратароў парткомаў да прапрацоўкі рашэнняў з'езда. За гэты асноўны рычаг, які павінен рухаць усю нашу работу наперад, нясуць перад партыяй адказнасць у першую чаргу кіраўнікі нашых партарганізацый.

Я. Р.

---

„Большэвік не можа абмежавацца простай верай у соцыялізм, падобна таму, як верыць рэлігійны чалавек у царства нябеснае. Не, большэвік—гэта член такой партыі, праграма, палітыка і тактыка якой будуюцца на строга навуковых асновах марксізма-ленінізма; большэвік—гэта той, хто разумее непазбежнасць краха капіталізма, непазбежнасць дыктатуры пролетарыята, забяспечваючы перамогу соцыялізма. Пагэтаму кожны член партыі павінен аўладаць асновамі марксізма-ленінізма".

(З прамовы т. Кагановіча на XVII з'ездзе ВКП (б)).

# ВОПЫТ ПЕРАДАВОЙ МАСКОЎСКАЙ АРГАНІЗАЦЫІ—НА ЎСЕ ЎЧАСТКІ РАБОТЫ

Усім сакратарам парткомаў, парторгам, группарторгам, комсамольскім работнікам, гаспадарнікам, профсаюзным працаўнікам, рэдактарам шматтыражак—аб рэалізацыі вопыта работы большэвікоў Масквы.

*(Ліст гаркома партыі)*

Мэта пасылкі ў Маскву дэлегацыі лепшых партарганізатараў заключалася ў тым, каб навучыцца ў большэвікоў Совецкай сталіцы, кіруемых тав. Сталіным і яго с付ратнікам тав. Кагановічам, як трэба перабудаваць партыйную работу так, каб забяспечыць авангардную ролю кожнага комуніста на кожным участку, зрабіць яго большэвіком, арганізатарам мас па выкананню гістарычных рашэнняў XVII з'езда партыі, каб па-большэвіцку перанесці ва ўсе поры партработы Гомельскай партарганізацыі вопыт перадавой Маскоўскай арганізацыі.

Наша брыгада наведала 5 прадпрыемстваў г. Масквы. Завод імя Сталіна (выпрацоўвае аўтагрузавыя машыны), налічваецца на заводзе рабочых 23 тыс., комуністаў — 3,5 тыс., комсамольцаў—6 тысяч, цэхпарторгаў на заводзе 40, партгруп—240.

Завод „Серп и молот"—(выпускае высокаякасную сталь), рабочых 12,5 тыс., комуністаў 1.700, столькі-ж комсамольцаў. Цэхавых парторгаў—21, брыгадных—152, спачуваючых—170 чал.

Тэкстыльную фабрыку „Трехгорка". Рабочых на фабрыцы 5,5 тыс., комуністаў—926, комсамольцаў—750.

Заводы „Монометр" і імя Молатава.

Чулы, таварыскі прыём, які сустрэла брыгада не толькі ў парткомах, але і з боку рабочых у цэхах—яскравы паказальнік пролетарскага інтэрнацыяналізма, пролетарскай дапамогі. Надзвычайная чыстата, парадак на прадпрыемствах, азеляненне кожнага кавалка зямлі завода, жывыя кветкі па цэхах, нават і ў ліцейных, з'яўляюцца паказальнікам той аграмаднай пролетарскай культурнасці, якую дасягнулі пролетарыі на маскоўскіх прадпрыемствах.

## 1. Перабудова партработы

Перабудову ўсе парткомы гэтых прадпрыемстваў пачалі з падрабязнага азнаямлення з работай і якасцю кожнага паасобнага комуніста. На „Трехгорке", „Монометре" сакратар парткома і яго намеснік, парторгі, раней, чымся аформіць пярвічную арганізацыю ў цэху, брыгадзе, праз дэталёвую вывучку, узважылі змест работы кожнага комуніста, чаго можна патрабаваць ад яго, узровень яго развіцця, пасля чаго заняліся расстаноўкай партыйных сіл з такім разлікам, каб ахапіць партыйным уплывам увесь рабочы калектыў і адначасова дапамагчы членам партыі ў правадзімай імі рабоце.

Дэталёвы падбор і правільная расстаноўка партыйных і комсамольскіх сіл далі магчымасць выявіць беспартыйны актыў і зараз па ўсіх гэтых прадпрыемствах на кожныя 4-5 чал. рабочых ёсць комуніст, або комсамолец, або лепшы беспартыйны рабочы. Дзякуючы такой правільнай расстаноўцы сіл, партарганізацыя ведае настроі рабочых, іх штодзённыя запатрабаванні, вядучы сістэматычную работу з імі, а ў цэлым гэта вырашае поспех выканання промфінплана і яго якасных паказальнікаў.

Кожны комуніст, у залежнасці ад яго палітычнай і агульнай падрыхтоўкі, адказвае за выхаванне і работу 4—10—20 рабочых у брыгадзе, пралёце, ленце. Такая сістэма канкрэтызуе работу і адказнасць кожнага комуніста, дае магчымасць парторгу, парткому правяраць штодзённа на канкрэтных участках работы комуністаў і дапамагаць ім.

Разам з гэтым такая сістэма работы забяспечвае сістэматычнае выяўленне лепшых адданых рабочых і арганізацыю іх у групы спачуваючых.

— Работа цэх і группарторгаў,—расказваюць: партарганізатар ліцейнага цэха зав. „Монометр"—тав. Грач, парторг цэха дэталей завода імя Сталіна—т. Старыкаў, парторгі зав. імя Молатава, і інш., —павінна зводзіцца к таму, каб шырокай палітвыхаваўчай работай, моцна звязанай з выкананнем штодзённых канкрэтных задач, забяспечыць выкананне плана. Гэту задачу разумее не толькі парторг цэха, але кожны партарганізатар брыгады і на выкананне яе мабілізуе ўсіх членаў партыі і актывістаў рабочых.

Нямалую работу парторгі праводзяць у галіне падрыхтоўкі сваіх партыйных дзён. Калі раней падрыхтоўка зводзілася да вывешвання аб'яў аб сходзе, то зараз кожны комуніст, беспартыйны рабочы ведае за тыдзень раней, што будзе на сходзе, якія будуць абмяркоўвацца пытанні, парторгі даюць заданні асобным комуністам, групам комуністаў па тых або іншых пытаннях, якія павінны абгаварвацца на сходзе. Гэта забяспечвае хуткае і правільнае вырашэнне пытання, актыўнасць у час правядзення партсходаў, уцягненне ў падрыхтоўку да сходаў больш актыва цэха, брыгады. Парторг Даронічаў (такарны цэх зав. „Монометр"), рыхтуючыся да партдня з дакладам начальніка цэха, даў 4 заданні паасобным комуністам па пытаннях сабекошту і барацьбы з бракам, зарплаты і снабжэння рабочых, становішча тэхвучобы ў цэху.

Займаючыся вытворчай работай цэха, парторгі займаюцца вывучэннем кожнага комуніста, рабочага і іх бытавых умоў. Вось прыклады: на „Монометре“ брыгадзір ліцейнага цэха Васільеў не ўдзельнічаў у грамадскім жыцці, не наведваў школы, у працэсе работы з ім выявілася, што ў тав. Васільева вельмі дрэннае матэрыяльнае становішча. Партарганізацыя, праз касу ўзаемадапамогі, яму дапамагла, і зараз ён лепшы актывіст брыгады. Савіцкі і Макараў (завод імя Сталіна), Арсеньеў (завод імя Молатава) і рад інш. таварышоў новага актыва з лепшых рабочых—вынік перабудовы партработы. Абедзенныя перапынкі і вольны час ад работы партарганізатары скарыстоўваюць для правядзення масавай выхаваўчай работы. На „Трохгорке“, „Монометре“ у час абедзеннага перапынку брыгада бачыла, што ў кожным кутку сядзяць групы рабочых, адны з іх чытаюць газеты, другія разучваюць спевы да першамайскай дэманстрацыі, трэція вывучаюць якасць прадукцыі, і выкананне планаў. Няма ніводнай групы, або брыгады, якая-б не займалася той ці іншай масавай работай у час перапынку. Зараз па ўсіх прадпрыемствах абвешчан конкурс на лепшую падрыхтоўку да першамайскіх свят. Партгрупы спаборнічаюць не толькі па выкананню добраякасна промфінплана, але і па правядзенню ў сваёй партгрупе, сям'і рабочага першамайскага вечара. Пераможцам будзе тая група, якая датэрмінова выканае промфінплан, дасць лепшыя якасныя паказальнікі, лепей аформіць сваю брыгаду на дэманстрацыі (лозунгамі, плакатамі, спевамі, танцамі, гульнямі, музыкай), ужо з першых дзён красавіка парторгі заняліся пытаннем колькі членаў сям'і прывядзе з сабой на дэманстрацыю кожны рабочы. Падрыхтоўкай да Першага мая і разгортваннем масавай работы займаюцца не толькі парт., проф. і комсамольскія арганізацыі, а і дырэкцыя завода. На заводзе імя Сталіна дырэктар тав. Ліхачоў з'яўляецца начальнікам фізкультурнага атрада, ён 7 красавіка вывесіў загад, як прыйсці фізкультурнікам на парад (гарнітуры, пабудова калон і т. д.). На жаль, у нас у Гомельшчыне амаль няма такіх прыкладаў, каб дырэктары прадпрыемстваў займаліся і фізкультурай, і шахматамі і дапамогай у правядзенні масавай работы, або, каб нашы заводскія арганізацыі ўцягнулі ў сваю работу і сям'ю рабочага.

Наша задача заключаецца ў тым, каб, выкарыстоўваючы вопыт маскоўскіх большэвікоў перабудаваць сваю работу.

Дэталёва праверыць якасць кожнага паасобнага комуніста і, у залежнасці ад яго здольнасці, даручыць яму той, або іншы ўчастак работы. Па прыкладу Масквы расставіць свае партыйныя і комсамольскія сілы так, каб на кожныя 10-15 рабочых мы мелі аднаго комуніста або члена ЛКСМ.

Выявіць і арганізаваць вакол сябе шырокі беспартыйны актыў, стварыць з яго групу спачуваючых.

Забяспечыць высокаякасны рост нашай партыйнай арганізацыі, зрабіўшы спачуваючых бліжэйшымі памочнікамі партыі.

Добраякаснай падрыхтоўкай пытанняў абвесткі дня сходаў, забяспечыць высокі змест іх, уцягнуўшы ў гэту падрыхтоўку максімальную колькасць комуністаў, дабіцца актыўнасці іх на партднях.

Займаючыся вытворчымі пытаннямі, разгортваннем масавай выхаваўчай работы, парткомы павінны займацца кожным комуністам, вывучэннем яго быта, чула па-таварыскі падыходзіць персанальна да кожнага, забяспечыць яго рост і актыўнасць у арганізацыі.

Сваю работу парткомы, парторгі, партарганізацыі, КСМ павінны пабудаваць так, каб кожную свабодную мінуту разумна скарыстаць на масавую выхаваўчую работу калектыва рабочых і комуністаў. Запоўніць абедзенны перапынак, свабодныя гадзіны ўвечары—гутаркамі, чыткай газет, спевамі, чыткай мастацкай літаратуры, вайсковымі пытаннямі, разборам рада вытворчых пытанняў, лекцыямі, разумным адпачынкам і т. д.

Уся масава-выхаваўчая работа не павінна прайсці міма нашых гаспадарнікаў. За соц. бытавыя ўмовы, за настроі рабочых, за становішча фізкультурнай работы, за падрыхтоўку да першамайскіх свят, за чыстату на прадпрыемствах—за ўсё гэта, разам з парткомам і профарганізацыяй нясе адказнасць і дырэктар, як камандзір прадпрыемства, як комуніст.

## 2. Пастаноўка прапаганды і нагляднай агітацыі ў партыйнай і комсамольскай арганізацыях

Пытаннямі партыйнай і комсамольскай асветы, асабліва глыбокай прапрацоўцай матэрыялаў з'езда займаюцца не толькі парткомы і парторгі, але і начальнікі цэхаў і профупаўнаважаныя. Дзень партасветы па прадпрыемствах Масквы непахісны. Выпадкаў наведвання 50-60 проц. Масква не ведае, толькі таму, што ў дні вучобы кожны комуніст цэха, брыгады лічыць сваім абавязкам праверыць і напомніць таварышам аб вучобе. Зараз калектывы заняты грамадска-палітычным экзаменам па рашэннях XVII з'езда партыі. Экзамен здаюць не толькі радавыя комуністы, але і ўвесь актыў і беспартыйныя рабочыя на сходах, на пасяджэннях парткомаў, райкомаў; па профлініі—на прэзідыумах РСПС і ужо на заводзе імя Сталіна здалі 6130 чал., з іх беспартыйных 4000, на „Монометре“ — 460, беспартыйных—89 і т. д. Прапагандыстамі вучобы на ўсіх прадпрыемствах з'яўляецца заводскі актыў, які выяўляецца і рыхтуецца парткомамі, ён таксама ахоплен вучобай, але не ў дні масавай партасветы.

Для падрыхтоўкі партыйнага актыва на вучэбных камбінатах вызначаны спецыяльныя дні парторгаў, гаспадарнікаў, прафоргаў і комсамольскага актыва.

Практыка адказнасці сакратароў паркома, партарганіза-

тараў, цэхпрафоргаў, брыгадзіраў і кожнага комуніста за наведванне школы, праз глыбокае выяўленне пасняховасці на занятках комуністаў і рабочых сваёй брыгады, цэха, агрэгата, у сістэме нашай партасветы — павінна стаць асноўным рычагом у барацьбе за паляпшэнне работы школ. Трэба, каб прапагандысты ў працэсе вучобы выяўлялі „отличников“ і з іх рыхтавалі высокаякасных прапагандыстаў, умеючых увязваць тэарэтычны матэрыял з асаблівасцямі прадпрыемстваў і іх работай. У дні-ж масавай вучобы трэба арганізоўваць вучобу саміх прапагандыстаў. Толькі такім чынам мы ўзнімем якасна нашу вучобу і даб'емся поўнага ахопу ёю комуністаў і рабочых і 100-проц. наведвання школ.

Масавая наглядальная агітацыя ў рабоце парткомаў, цэхпарторгаў і партгруп займае адно з асноўных месц: На „Трахгорке“, на заводах імя Сталіна, Молатава, „Монометр“ і інш. вылучаны таварышы, адказныя за наглядную агітацыю, і на кожным прадпрыемстве, пачынаючы з лесніцы і канчаючы варотамі завода, ярка адражана ўся работа завода, брыгады сёнешняга дня, цэха ў лозунгах, плакатах, дыяграмах, вітрынах, розных бюлетэнях, таблiцах і т. д., а не так, як у нас—вытворчыя лозунгі на многіх прадпрыемствах амаль гадамі вісяць, страціўшы ўжо сваё значэнне.

Па ўсіх калектывах, цэхах, брыгадах неабходна выдзеліць адказных таварышоў за наглядную агітацыю, якія-б адказвалі за якасць пастаноўкі нагляднай агітацыі (лозунгі, плакаты, дыяграмы і т. д.), а парткіраўнікі калектываў, цэхаў, брыгад павінны сачыць і правяраць работу гэтых таварышоў.

## 3. Пытанні масавай работы

Пытанне барацьбы за соцыялістычныя метады працы для большэвікоў Масквы—гэта не кампанейскія мерапрыемствы, звязаныя з тымі або іншымі здарэннямі, а гэта—штодзённая работа, укараніўшаяся ў плоць і кроў масавай работы прадпрыемства. Праз кожную дэкаду ва ўсіх брыгадах правяраецца, як паасобныя рабочыя выконваюць узятыя на сябе абавязацельствы па соцдагавору. Кожны комуніст прадпрыемства безумоўна з'яўляецца ўдарнікам. Такім чынам, усе члены партыі і кандыдаты з'яўляюцца сапраўднымі ўдарнікамі.

Па ўсіх прадпрыемствах Масквы шырока разгорнут паход за аўладанне тэхнікай сваёй вытворчасці. На заводзе імя Сталіна ўжо 7000 рабочых здалі грамадска-тэхнічны экзамен, аднак, на гэтым не спыняецца работа, з здаўшых тэхэкзамен арганізоўваюць новыя тэхнічныя гурткі павышанага тыпа, забяспечваючыя беcперапыннае падвышэнне тэх. ведаў рабочых.

Шэфская работа над вёскай таксама не з'яўляецца кампанейскай. Прадпрыемствы, цэхі, брыгады маюць свае падшэфныя сельсоветы, калгасы, якім сістэматычна дапамагаюць у іх рабоце (масавыя выезды, прапрацоўка з'ездаўскіх матэрыялаў, дапамога людзьмі і культурна-масавая работа).

На заводзе імя Молатава ўжо зараз вядзецца ўлік па цэхах,—хто жадае на адпачынак ехаць у свой падшэфны калгас для дапамогі ў рабоце. І зараз маецца ўжо больш 19 чалавек добраахвотнікаў.

Па цэхах і брыгадах, у дыяграмах адабражаны паказальнікі работы і становішча падшэфных калгасаў. Тут-жа відны паказальнікі дапамогі калгасам з боку іх шэфаў.

Характэрна адзначыць, што члены партыі, комсамольцы выконваюць аграмадныя задачы і нагрузкі ў галіне самаадукацыі, выканання даручэнняў, шэфства і т. д. і ўмеюць правільна спалучаць гэтыя задачы з вытворчай работай і культурным жыццём і адпачынкам: наведваннем тэатраў, кіно, лекцый, паркаў, экскурсій і т. д.

Наша задача—ператварыць соцспаборніцтва ў штодзённую справу,—у асноўны рычаг у барацьбе за план. Зрабіць кожнага комуніста сапраўдным ударнікам па шэфству над вёскай, прымацаваць да кожнага цэха, брыгады—калгас, участак, брыгаду і патрабаваць ад іх адказнасці за работу іх падшэфаў.

Разам з гэтым умела арганізаваць культурны адпачынак рабочага, які-б даў магчымасць аднавіць затрачаную энергію на рабоце.

## 4. Работа друку

Новае ў рабоце друку гэта тое, што газета займаецца не толькі выкананнем промфінплана, але—і яслямі, і як жыве рабочы дома, якое меню абеда ў заводскай сталоўцы, работай у падшэфным калгасе, арганізацыяй выступленняў спачуваючых. Газета з'яўляецца праваднiком крытыкі і самакрытыкі і не гоніцца за сенсацыйнымі матэрыяламі. Сістэматычнай работай з рабкорамі яна высоўвае перад партарганізацыяй цэлы рад пытанняў і займаецца імі да таго часу, пакуль яны не будуць вырашаны. Газета „Трехгорки“ ведаючы, што на фабрыцы дрэнна працуюць дзіцячыя яслі, праз друк арганізавала масавы паход за ўзорную работу іх, паставіла гэтае пытанне перад парткомам, і як вынік—яслі „Трехгорки“ зараз лепшыя па Маскве. Шматтыражкі змагаюцца за шырокі ўдзел у газеце рабкораў і за масавасць, яны паставілі перад сабой задачу—у кожным нумары павінна ўдзельнічаць не менш 10—15 рабкораў. З гэтай мэтай лепшы рабкораўскі актыў прымацаван да цэхаў і адказвае за актыўную работу рабкораў свайго цэха.

Такі дадатны вопыт, як сістэматычная работа з рабкорамі, барацьба за масавасць шматтыражкі, дапамога газеты парткомам у пастаноўцы пытанняў, патрабуючых ускрыцця іх і неадкладнага вырашэння, арганізацыя масавых мерапрыемстваў: прапаганда рашэнняў партыі, разгортванне сапраўднай большэвіцкай крытыкі і самакрытыкі павінны стаць здабыткам работы нашага нізавога друку.

## 5. Аб рабоце комсамола

Комсамольская арганізацыя сталіцы зараз яшчэ толькі прыступае да перабудовы сваёй

работы, але-ж рашэнні партыі аб рабоце „Л/К“ знайшлі адлюстраванне ў практычнай рабоце ўсіх комсамольскіх калектываў. На прадпрыемствах арганізаваны групы „Л/К“, якія ўскрылі цэлы рад недахопаў у рабоце совецкіх і кааперацыйных звенняў. На заводзе „Монометр“ было вялікае затаварванне ў краме. Гэта выявіла „Л/К“, паставіла пытанне перад адпаведнымі арганізацыямі, у выніку чаго цэны на залежаўшыяся нехадовыя тавары значна знізіліся. Прынялі рад іншых мер па паляпшэнню работы магазінаў. „Л/К“ займаецца якасцю і калькуляцыей абедаў у сваіх сталоўках, пытаннем як жыве рабочы дома, сутнасць усёй работы груп „Л/К“ у тым, што яны жывуць і працуюць сумесна з калектывам завода. Па ўсіх цэхах на заводзе імя Молатава ёсць самастойныя газеты „Л/К“, якія выпускаюцца раз у пяцідзёнку. Такое прынікненне ў глыбіню вострых пытанняў работы прадпрыемства, цэха, сталовых, ЗРК і т. д. магчыма таму, што само кіраўніцтва прадпрыемства (дырэктар, сакратар парткома, фабком) штодзённа займаецца гэтымі пытаннямі.

Рашэнні партыі і ЦК ВЛКСМ, каб кожнаму комсамольцу даць сярэднюю адукацыю, на прадпрыемствах Масквы сапраўды праводзяцца ў жыццё. На кожным заводзе арганізавана школа для комсамольцаў-ударнікаў з тэрмінам навучання 3 гады.

Вайсковая работа, асабліва ў Баўманскім раёне, пастаўлена зусім добра. Па калектывах вызначаны спецыяльныя вайсковыя дні, якіх ніхто не мае права парушаць. Комсамольцы, моладзь і старыя рабочыя праходзяць вайсковы мінімум, у тым ліку і хімічную справу.

Па Баўманскаму раёну зараз рыхтуюцца да масавай здачы вайсковага экзамена. Кіраўніцтва партарганізацыі комсамолам праводзіцца не праз прымацаванне аднаго з таварышоў да комсамола, а кожны парторг брыгады, цэха, сакратар парткома адказвае за работу свайго комсамольскага калектыва.

Наша задача заключаецца ў тым, каб разам з комсамольскай арганізацыяй неадкладна арганізаваць групы „Л-К“ ва ўсіх комсамольскіх калектывах, зрабіць іх сапраўдным баявым атрадам па дапамозе партарганізацыі ў выкрыцці і выкарчоўванні бюракратызма і рада іншых бясчынстваў, маючыхся ў паасобных партыйных, гаспадарчых і совецкіх арганізацыях.

Максімальным ахопам комсамольцаў у веч. ВТНУ, ВНУ, рабфакамі, тэхнікумамі, вытворчымі школамі — выканаць рашэнне партыі: „Даць кожнаму члену КСМ сярэднюю адукацыю“.

Комсамольцы павінны стаць застрэльшчыкамі арганізацыі здачы вайсковага мінімума, ахапіўшы ім усіх комсамольцаў, моладзь і старых рабочых.

За работу і становішча комсамольскай арганізацыі трэба ўскласці адказнасць на сакратара парткома, цэх. і групарторга, а па брыгадах—неабходна дабіцца адказнасці кожнага комуніста за выхаванне і работу яго комсамольцаў.

Вось, коратка асноўнае з таго вопыта, які наша брыгада атрымала ў большэвікоў Масквы, вопыта, правядзенне якога штодзённа забяспечыла тое, што ўсе гэтыя прадпрыемствы з месяца ў месяц, з квартала ў квартал выконваюць свае вытворчыя заданні, узорна паставілі рабочае снабжэнне. Гэтыя прыклады работы большэвікоў Масквы ёсць вынік творчай, жывой ініцыятывы парткомаў, парторгаў, групарторгаў, гаспадарнікаў, профсаюзных і комсамольскіх работнікаў і ўсіх рабочых, якія зразумелі і на справе па-большэвіцку ажыццяўляюць рашэнні XVII з'езда партыі, указанні вялікага правадыра тав. СТАЛІНА. Яны не абмежаваліся адабрэннем гэтых рашэнняў, а ўзялі з іх для сябе канкрэтныя задачы па паляпшэнню ўсёй работы на ўсіх участках.

Зараз задача заключаецца ў тым, каб гэты вопыт зрабіць здабыткам кожнага комуніста, парторга, парткома, профсаюзніка, гаспадарніка, комсамольца, газеты і на аснове яго перабудоўваць сваю работу, забяспечыўшы 100% выкананне колькасных і якасных паказальнікаў промфінплана.

Паасобныя таварышы з нашай дэлегацыі — СМІРНОЎ, СОКАЛАЎ заключылі паміж сабой соцдагаворы на лепшае ўнядрэнне метадаў работы маскоўскіх большэвікоў у сябе на прадпрыемстве. Мэта будзе дасягнута толькі тады, калі па іх прыкладу, унядрыўшы гэтыя метады, усе парторгі, парткомы разгорнуць паміж сабой соцспаборніцтва на лепшае яго праламленне ў практычнай рабоце.

Выходзячы з набытага вопыта, штодзённа праяўляючы большэвіцкую ініцыятыву, трэба пашыраць яго, гібка прымяняць яго прыстасоўваючы да ўмоў работы нашых прадпрыемстваў.

Гарадскі камітэт партыі будзе і надалей практыкаваць пасылку ў нашы пролетарскія цэнтры брыгадзіраў, парторгаў, сакратароў, парткомаў, профарганізатараў, рэдактароў, прапагандыстаў, комсамольскіх работнікаў, гаспадарнікаў, якія на справе будуць ажыццяўляць атрыманы вопыт Масквы, забяспечаць бесперапыннае выкананне плана па якасных і колькасных паказальніках, пакажуць узор партмасавай работы, работы па рабочаму забеспячэнню.

Кожны сакратар парткома, групарторг, рэдактар газеты, прапагандыст, гаспадарнік, профсаюзны і комсамольскі работнік павінен па-большэвіцку змагацца за тое, каб паставіць узорна у сябе работу і атрымаць права на месца ў дэлегацыі, якая паедзе пераймаць вопыт у перадавыя пролетарскія сталіцы.

Трэба гэты ліст падрабязна абмеркаваць на сходах, партгрупах, сярод цэхавых і групарторгаў, каб з гонарам перанесці ва ўсю нашу работу каштоўнейшы вопыт маскоўскіх большэвікоў і па іх прыкладу перамагаць на ўсіх фронтах соцыялістычнага будаўніцтва.

**Гарком партыі.**

# ЛЮДЗІ ШЧАСЛІВАЙ КРАІНЫ

## Калектыўны расказ герояў

Рашылі мы, старэйшыя ўдарнікі гомельскіх заводаў, прысвяціць вечар успамінам. Многа аб чым можна ўспамінаць. Пяць год удзельнічалі мы ў ленінскім паходзе, які зусім змяніў наша жыццё. Пяць год жылі мы ідэяй соцыялістычнага спаборніцтва. У пакоі нас нямнога, але за намі стаіць увесь пролетарскі Гомель, благапалучча і радасць кожнага з нас ёсць благапалучча і радасць усёй краіны.

### КАТЛЫ ПРЫНОСЯЦЬ РАДАСЦЬ

Першае слова прадастаўляем мы самаму старэйшаму з нас герою працы—**Казіміру Казіміравічу Казлоўскаму**. Гомель ведае тав. Казлоўскага і яго вялікую любоў і клопаты да даверaных яму катлоў электрычнай станцыі завода імя Ланцуцкага. І сярод ночы, і ўдзень і раніцаю ў самы нечаканы час яго можа знайсці каля катлоў; іншы раз у марозы і мяцеліцу ночу ідзе Казімір Казіміравіч па Залінейнаму раёну праверыць катлы.

Калі аднойчы пры пуску машыны пагнуўся вал, тав. Казлоўскі ўзняў на ногі ўвесь рабочы калектыў. Людзі 48 гадзін не выходзілі з кацельнай і за два дні адрамантавалі машыну. Ні мінуты прастояў не маюць цэхі завода, бо Казімір Казіміравіч арганізоўвае спаборніцтва брыгад электрастанцыі, бо разам з электратокам расцякаецца па правадах ад станцыі і гэта самая магутная сіла рабочага класа. Цэлае пакаленне гаспадароў машын, сапраўдных ударнікаў выхаваў Казімір Казіміравіч. Яго вучань **Александроў** работае зараз майстрам цэха. Другі яго вучань **Цюраеў** паехаў з завода на адрамантаваным паравозе і больш не вярнуўся. Водзіць ён зараз паезды па ўсёй Заходняй чыгунцы і слава добрага машыніста ідзе разам з ім.

Не толькі дзіўныя клопаты аб катлах праяўляе тав. Казлоўскі, аддае ім і свой розум. Ён вынайшоў новы станок для расточкі цыліндраў, прыдумаў прыбор, апрацоўваючы шыйбы, не паднімаючы вала. Многа рацыяналізатарскіх прапаноў унёс ён па кацельнаму абсталяванню. За ўсё гэта ўзнагароджан Казімір Казіміравіч пачэсным званнем героя працы. І ён расказаў нам аб тым, што ў новым свеце ён урэшце адчуў сябе чалавекам.

— Чалавекам я сябе адчуў толькі зараз. На заводзе, дзе мяне любяць і паважаюць, дзе жыву я па чалавечы, стаў я лепшым майстрам, рацыяналізатарам і вынаходнікам. Я ўступіў у спаборніцтва з людзьмі, і паявілася ў мяне жаданне жыць і работаць. Паяўляюцца таланты. Спаборніцтва адкрывае ў людзях здольнасці. І не адзін такі я, нас многа. Усіх нас падняло да жыцця соцыялістычнае спаборніцтва.

### ВЯНЕЦ ПРАЦОЎНАГА ЖЫЦЦЯ

Пасля тав. Казлоўскага гаворыць яшчэ адзін стары ветэран нашых заводаў, старэйшы ўдарнік фабрыкі «Праца» тав. **Ліберман**. Зараз тав. Ліберман думае над тым, як палепшыць падбіўку абцаса. Нядаўна яшчэ кепска работала штыфтовая машына на фабрыцы, трэба быў яшчэ нейкі прыбор, каб дапамагчы ёй. Многа начэй не спаў Ліберман з-за гэтай машыны. Многа праектаў нарадзілася ў яго галаве. Усіх ўцягнуў ён у сваю справу на фабрыцы: і механікаў, і брыгадзіраў, і рабочых. Вакол сваёй ідэі падняў тав. Ліберман выпрабаваную сілу--спаборніцтва людзей. І калі ўсе пачалі думаць, то механікі ўспомнілі, што на складзе стаіць нейкая невядомая машына. Брыгадзіры разглядзелі яе, выпрабавалі і аказалася, што вельмі лёгка пры дапамозе яе ажыццявіць думку тав. Лібермана. Машыну адрамантавалі, паставілі на канвеер, і зараз абцасы трымаюцца моцна. Ліберман работае ўжо над новай праблемай, над тым, як паставіць раскройную справу так, каб ні адзін сантыметр скуры не прападаў дарма. І зноў уцягваюцца ў барацьбу брыгады штампоўшчыкаў, закройшчыкаў; соцыялістычнае спаборніцтва бярэ шэфства над новай думкай тав. Лібермана.

— Вянец майго працоўнага жыцця,—гаворыць тав. Ліберман, —гэта мая новая сям'я і таржаство спаборніцтва. Я вельмі і вельмі шчаслівы...

І мы, ударнікі гомельскіх заводаў ведаем многа такіх сем'яў рабочых. Спаборніцтва напаўняе жыццё новым сэнсам і робіць людзей шчаслівымі. І меў рацыю майстар механічнага цэха завода Сельмаш, калі ён, расказваючы нам аб сабе, самым шчаслівым днём свайго жыцця назваў дзень сваёй перамогі ў соцыялістычным спаборніцтве. Вось што расказаў майстар **Трэсцінкі**:

### САМЫ ШЧАСЛІВЫ ДЗЕНЬ МАЙСТРА

— Самым шчаслівым днём майго жыцця я лічу адзін дзень. Было так. Завод Сельмаш атрымаў адказны заказ на запчасткі для трактароў. Адных балтоў ды розных дэталей трэба было зрабіць 70 тысяч. Па тэлеграфу загадаў сакратар ЦК КП(б)Б тав. Гікало дырэктару завода выканаць загад у тэрмін. А дырэктар перадаў тэлеграму мне.

— Гэта табе,—кажа ён,—Гікало піша, у тваіх руках заказ!

І на самай справе ўзяла мяне гэта тэлеграма за жывое. Як-жа мы, думаю, у тэрмін паспеем, калі ў нас варштат усяго 70 балтоў за суткі вырабляе. Прыходжу ў цэх. Бачу, хлопцы добрыя каля варштатаў стаяць. Няўжо, думаю, з імі не справімся? Вось, кажу, хлапцы, якая справа: піша нам сакратар ЦК, прыдзецца пастарацца. Выйдзем на спаборніцтва! Я сам бяруся палепшыць станкі, каб хутчэй работаць, а вы не падкачайце... Узяўся я за два рэвальверныя варштаты, перарабіў іх, зрабіў свае прыстасаванні і стаў кожны варштат па 90 штук балтоў за змену даваць, 2700—за суткі.

Не прайшло яшчэ і 6 тыдняў, а ў нас работа гатова. Нават не верыцца, што так лёгка перамаглі. Прыбягаю да дырэктара: бяры кажу паперу, пішы, сакратару ЦК КП(б)Б тав. Гікало: «Ваша заданне выканана датэрмінова».

І гэта самы шчаслівы дзень у маім жыцці. Тады я пазнаў, што знайшоў такі інструмент, на якім можна заваяваць і яшчэ большыя перамогі самы важны інструмент —соцыялістычнае спаборніцтва.

Пасля гэтых слоў падняўся ад краю стала майстар соцыялістыч-

нага спаборніцтва, начальнік калёснага цэха завода імя Ланцуцкага т. **Саўкін** і расказаў, як ён навучыўся ўладаць гэтым важным інструментам.

### ШТО ВЫРАТАВАЛА ЦЭХ

За першую пяцігодку слесар Саўкін, лепшы ўдарнік механічнага цэха, стаў інжынерам. Назначылі яго ў кантору да планаў і чарцяжоў.

— Нудна мне,—гаворыць Саўкін,—не магу прывыкнуць, усё цягне ў цэх. Ледзь удалося вырвацца ў МТМ, там паказаў, на што я здолен. У разваленых майстэрнях дзе ні варштатаў, ні рабочых не было, стварыў усё і за месяц адрамантаваў 120 трактароў. Вярнуўся зноў у кантору, трактары мае аруць зямлю. Сяджу ў канторы, сонна, нудна. Тады я зачыніў дзверы свайго пакою, склаў паперы ў папку і пайшоў у калёсны цэх. Пайшоў дапамагаць работаць.

Цэх гэты быў самы адстаючы на заводзе, ніколі яшчэ больш 80 проц. плана ён не даваў. У цэху заўважылі маю дапамогу, бачаць. што я даю сур'ёзныя парады, абгаварылі, партком вынес рашэнне: «прызначыць Саўкіна начальнікам калёснага цэха».

Таварышы спаткалі мяне кпінамі. «Вось тут ты сядзеш у лужу, тут не такія, як ты, галавы ламалі». На чыстцы партыі я перад камісіяй заявіў: «Як комуніст абяцаю, што калёсны цэх будзе лепшым цэхам завода».

А ў цэху—ва ўсіх настрой дрэнны. План не выконваецца, зарплата нізкая. Паглядзеў я ўважліва, аказваецца і работаць няма каму. Некваліфікаваныя людзі стаяць каля варштатаў. Сабраў я рабочых і паставіў пытанне прама: «альбо будзем вучыцца работаць, альбо вы ў цэху не патрэбныя людзі. А работаць і вучыцца будзем праз спаборніцтва».

І доўгі час я вывучаў кожнага чалавека, у чым ён адчувае патрэбу, як да яго адносіцца трэба, які ў яго характар.

З якой радасцю я сачыў, як нараджаліся ў цэху першыя ўдарныя брыгады, як учарашнія чорнарабочыя спаборнічалі—хто раней пачне самастойна работаць на варштаце. Кожнага рабочага я сам правяраў, дапамагаў яму ў першы час работы. І праз два месяцы—18 чалавек чорнарабочых—падручных, раней прыносіўшых цэху малую карысць, пусцілі варштаты на поўны ход. Зараз я маю групу рабочых -- сапраўдных ударнікаў. выхаваных пры дапамозе спаборніцтва. З такімі людзьмі ўжо нічога не было страшна.

103 проц. плана за першы квартал гэтага года даў цэх. Замест 400 калёсных пар зараз кожны месяц завод дае 590. Гэтыя лішнія 200 пар у месяц робяцца пры дапамозе соцыялістычнага спаборніцтва. Да пятай гадавіны гэтага слаўнага руху 1500 лішніх калёсных пар выкачаны з варот нашага цэху.

Позна ўжо было, а расказы ўсе працягваліся. Расказы людзей хвалявалі кожнага з нас. У кожным слове мы адчувалі ўсе дні гераічнага пяцігоддзя. Мы гаварылі аб ордэнах, атрыманых за гераізм, аб вынаходках, аб машынах, аб новых будынках, аб новых людзях, аб новым шчасці. І за кожным словам, за кожным з нас паўставалі дзесяткі і сотні людзей. паўставалі заводы, паўставаў увесь пролетарскі Гомель, паўставала ўся шчаслівая Совецкая краіна.

„Галоўная азнака партыйнасці большэвіка -- роля авангарднага барацьбіта за соцыялістычныя адносіны да працы, роля арганізатара соцыялістычнага спосаба вытворчасці ў прамысловасці і ў „сельскай гаспадарцы".

(З даклада т. Кагановіча на 17 з'ездзе ВКП(б)).

# ЧТО СТАЛА З ПЯЦЦЮ УКЛАДАМІ, АБ ЯКІХ ГАВАРЫЎ ЛЕНІН

Ленін гаварыў у 1918 годзе што ў нашай краіне ёсць элементы (часткі) пяці розных гаспадарчых укладаў. Гэтыя ўклады такавы:

Па - першае, патрыярхальная (натуральная) гаспадарка, гэта значыць гаспадарка тых сялян, якія амаль не карысталіся рынкам і самі рабілі неабходнае для сябе.

Па-другое, дробна-таварная вытворчасць, гэта значыць гаспадарка большасці сялян з тых, што прадаюць хлеб.

Па-трэцяе, прыватна-гаспадарчы капіталізм, гэта значыць гаспадарка гарадской буржуазіі і кулацтва.

Па-чацвёртае, дзяржаўны капіталізм, набыўшы ў нас форму арэнды дзяржаўных прадпрыемстваў і зямель мясцовай і замежнай буржуазіяй.

Па-пятае, соцыялізм, гэта значыць гаспадарка, у якой зніштожана прыватная ўласнасць на сродкі вытворчасці.

З тых пор, як Ленін гаварыў пра гэту шматукладнасць краіны, прайшло 16 год. Рабочы клас, кіруемы партыяй Леніна-Сталіна, у моцным саюзе з сялянствам, на рэйках нэпа прарабіў аграмадны шлях.

У выніку першай пяцігодкі наша краіна з жабрацкай, адсталай, дзе пераважала дробная распыленая гаспадарка сялян, пературарылася ў краіну перадавую, індустрыяльную, з магутнай прамысловасцю і самым буйным земляробствам у свеце.

Што-ж стала з тымі пяццю ўкладамі, аб якіх гаварыў Ленін?

Як яны змяніліся?

Першы ўклад — патрыярхальны—ужо не існуе. Мы дабіліся гэтага дзякуючы аграмадным поспехам соцыялістычнага будаўніцтва ў адсталых нацыянальных акраінах, дзе ў найбольшай ступені меліся астаткі натуральнай гаспадаркі.

Не існуе дзяржаўнага капіталізма. Ён не атрымаў вялікага развіцця. Наша дзяржава сваімі сіламі здолела падняць і рушыць далей развіццё соцыялістычнай прамысловасці, не зварачаючыся да дапамогі замежнага капітала.

Трэці ўклад—прыватна-гаспадарчы капіталізм—намі таксама ліквідаван. Гарадская буржуазія (нэпманы), якая ўкладвала свае капіталы, галоўным чынам, у аптовы і раздробны гандаль і часткай у вытворчасць, выцяснялася па меры развіцця кааперацыі, дзяржгандлю і соцыялістычнай прамысловасці.

Не многа складаней абстаяла справа з ліквідацыяй вясковай буржуазіі (кулакоў), якая была найбольш шматлікім ворага совецкай улады. Да пачатку масавай калектывізацыі вёска складалася з 25 мільёнаў дробных, разрозненых сялянскіх гаспадарак. Процант соўгасаў і калгасаў быў нязначны. Партыя ў гэтых умовах праводзіла палітыку абмежавання эксплаататарскіх тэндэнцый (імкненняў) кулацтва. Адначасова партыя падрыхтоўвала базу (аснову) для пераводу распыленых сялянскіх гаспадарак на рэйкі калектывізацыі. Гэтай базай служыць створаная за гады першай пяцігодкі сучасная цяжкая прамысловасць, снабжаючая вёску трактарамі, камбайнамі іншымі складанымі сельскагаспадарчымі машынамі.

У 1929 годзе працоўнае сялянства масай пайшло ў калгас. Тым самым была створана аснова для разгорнутага наступлення супроць капіталістычных элементаў вёскі.

Пад геніяльным кіраўніцтвам таварыша Сталіна партыя перайшла ад палітыкі абмежавання кулака да палітыкі ліквідацыі кулацтва як класа.

Цяпер калгасны лад перамог канчаткова і беспаваротна. Тым самым знішчана глеба для вырастання капіталізма, якой была дробнатаварная вытворчасць.

Перамогай калгаснага ладу вырашана самая трудная задача соцыялістычнай рэвалюцыі.

Соўгасы і калгасы разам уладаюць 84,5 проц. усіх зерневых плошчаў. „Гэта значыць што калгасы і соўгасы разам сталі такой сілай, якая вырашае лёс ўсёй сельскай гаспадаркі і ўсіх яе галін" (Сталін. Справаздачны даклад на XVII з'езде партыі).

З вышэйсказанага відаць, што капіталістычная гаспадарка ў СССР ужо ліквідавана, а аднаасобны сялянскі сектар у вёсцы адціснен на задні план і вымушан падпарадкавацца і прыстасоўвацца да калгаснага ладу.

Цяпер соцыялістычны лад стаў непадзельна пануючай сілай на ўсіх участках народнай гаспадаркі. А гэта і азначае, што соцыялізм перамог у нашай краіне.

У другой пяцігодцы соцыялістычны ўклад стане адзіным гаспадарчым укладам у краіне. Мы гэтага дасягнем шляхам калектывізацыі астаючыхся 35 проц. гаспадарак аднаасобных сялян і кааперавання ўсіх саматужнікаў.

Ліквідацыя шматукладнасці гаспадаркі краіны не праходзіла і не праходзіць мірным шляхам. Толькі ў жорсткай класавай барацьбе з ворагамі рабочых і працоўных сялян, разгромам контррэволюцыйнага трацкізма і кулацкага правага ўхілу партыя, пад кіраўніцтвам таварыша Сталіна, змагла забяспечыць перамогу соцыялістычнага ўкладу.

Далейшым умацненнем пролетарскай дыктатуры мы даб'емся поўнага знішчэння астаткаў разгромленага, але недабітага класавага ворага, перамагання перажыткаў капіталізма.

Гарліт № 1045, Гомель. Зак. № 1845—2500 экз. друк. Палесдрук.

